
Простыя словы → 3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Чорнае сонца → 8-9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 06 (3222) Год LXIII Беласток, 11 лютага 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# ЗАЛЕШАНЫ

**29 студзеня чарговы раз у царкве Успення Прасвятой Багародзіцы ў Кляшчэлях і побач крыжоў у Залешанах спаткаліся жыхары гэтых мясцовасцей і наваколля, каб памаліцца за душы трагічна загінуўшых 29 студзеня 1946 года жыхароў вёскі Залешаны. Выпала якраз 72-я гадавіна з часу спалення Залешан атрадам Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якім камандаваў Рамуальд Райс, псеўданім «Буры», калі загінула частка жыхароў вёскі. У Залешанах сабраныя маліліся, усклалі вянкі і кветкі да крыжоў, а пазней старажылы ўспаміналі трагічныя здарэнні 72-гадовай даўнасці. Дзень раней у Жаночым манаскім доме святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах у час літургіі і паніхіды сабраныя таксама маліліся за ахвяр.**

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Каля крыжоў у Залешанах малітвы за душы загінуўшых 29 студзеня 1946 года ўзначалілі настаяцель Успенскага праваслаўнага прыхода ў Кляшчэлях і заадно дэкан Кляшчэляўскай акругі мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі і вікарны святар гэтай парафіі протаіерэй Павел Нікіцюк.

— Мы молімся тут, каб здарэнні 72-гадовай даўнасці не паўтарыліся. Мне было тады восем гадоў, калі да нас дайшлі весткі пра трагедыю, якая здарылася ў Залешанах. Хаця не было тады ні тэлебачання, ні інтэрнэту, звесткі пра спаленне Залешан і смерць іх жыхароў разыходзіліся маланкава. Мы тут молімся здаўна, каб Бог адхіліў ад нас у будучыні такую трагедыю, якая тут здарылася ў 1946 годзе, — сказаў мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі. — Тут, у Залешанах, месца святое. У Жаночы манастыр прыязджаюць маліцца сотні паломнікаў. Наш мітрапаліт Сава і многа святароў і людзей прыходзілі з хрэсным ходам памаліцца каля крыжоў. Стаяць яны каля хаты, якая была падпалена, калі знаходзіліся ў ёй сагнаныя вайскоўцамі жыхары Залешан. Да гэтага ўсяго давёў д'ябал. Наш абавязак — маліцца за душы загінуўшых, любіць іншых людзей і маліцца да Бога, каб мы маглі пазбегнуць падобных трагедый.

Каля крыжоў вянкі ўсклалі гайнаўскі староста Мірaслаў Раманюк, бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі, лідар партыі «Разам» на Падляшшы Севярын Пракапюк. Мясцовыя жыхары прынеслі кветкі.

— 72 гады таму ў Залешанах загінула 16 нявінных асоб з праваслаўных сем'яў. У іншых вёсках ад атрада «Бурага» таксама загінулі праваслаўныя жыхары і мы павінны аб гэтым гаварыць, каб такія трагедыі не паўтарыліся, — сказаў бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі. — Няхай гэтае месца напамінае нам аб трагічных здарэннях 72-гадовай даўнасці, каб яны не паўтарыліся.

— Мы сабраліся, каб памаліцца за трагічна загінуўшых у Залешанах. Праўдзівасць здарэнняў, якія тут адбыліся ў 1946 годзе, пацвердзілі таксама гісторыкі Інстытута нацыянальнай памяці і трэба аб іх памятаць, — сказаў староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк. — Мой дзядуля з Махнатага быў сярод вазакоў, якія з Лазіцаў везлі атрад «Бурага». Пазней ён распавядаў і аб гэтым гаварыла мая мама, як дзядуля ехаў з іншымі вазакамі і вёз тры асобы з атрада «Бурага». Пазней двух з іх адышло, а трэці даў зразумець, каб мой дзядуля ўцякаў. Дзядуля так і зрабіў. Не вяртаўся дадому двое сутак, бо апасаўся за жыццё. Пасля дзядуля дажыў глыбокай старасці і добра ўспамінаў таго жаўнера, які, можна сказаць, выратаваў яму жыццё.

Мікола Сахарчук з Залешан успамінаў, як будучы малым хлапчуком, трапіў у хату разам з іншымі жыхарамі, якую пазней падпалілі. Калі былі выбіты дзверы ў хаце, уцякаў ён разам з іншымі людзьмі. Пазней прыйшлося яму жыць разам з сям'ёй у Паўлінове і чакаць ажно адбудуецца дом у Залешанах. Пра падзеі, якія адбыліся 29 студзеня 1946 года, распавядаў таксама Пётр Младзяноўскі з Залешан.

— Калі падпалілі хату поўную людзей, я быў яшчэ малым хлопцам. Трымаючыся за галовы дарослых, хацеў я дабрацца да акна. Аднак адзін ад «Бурага» з кулямёта пацягнуў па акне. Ад кулі апаліла мне скуру на галаве і сталі закручваць яе хусткай. Калі вывалілі дзверы, мы ўсе пабеглі за вёску, — гаварыў Пётр Младзяноўскі,

Суразмоўцы, якія памяталі трагічныя падзеі, гаварылі таксама, што не атрымалі ніякай кампенсацыі за спаленую маёмасць і загінуўшых асоб.

— Невядома чаму жаўнеры «Бурага» спалілі нашу вёску і стралялі да людзей. Мой бацька паспрабаваў выйсці з сяла, але яно было акружанае і тады ён хаваўся ў хляве. У пажары загінула наша жывёла. Мне было 7 гадоў, але я запамятала тое, што рабілася, калі ў Залешаны прыйшоў атрад «Бурага». Я апынулася з іншымі ў хаце, якую падпалілі. Калі дом стаў гарэць, людзі там сабраныя спасаліся на Божую волю, выбілі дзверы і сталі ўцякаць. Жаўнер, які пільнаваў хату, стаў страляць уверх і таму ўсе мы выратаваліся. Наша цёця была краўчыхай і можа таму, што яна папраўляла шынялі для «Бурага» і яго жаўнераў, не спалілі яе дома і толькі адна цёціна хата не згарэла. Мы сталі жыць у хаце ў Саках, у католікаў. Пазней запрашалі мы іх да сябе, а яны нас да сябе, на свяканні, — расказвала спадарыня Клаўдзія з Залешан.

— Хочацца спытаць, чаму ўсё гэта зрабілі ў Залешанах? Аднак не збудуем будучыню без прабачэння він аў. Я зараз прыгнечаны тым, калі ўзвялічваецца «Буры» і яго падначаленыя. Мы павінны ўзвялічваць перш за ўсё таго жаўнера, які вартаваў падпаленую хату з жыхарамі Залешан. Ён не выканаў загаду і не страляў ва ўцякаючых з палаючага дома

працяг ☞ 10





# „Касцы” і „зайцы”

Натрапіў я днямі на перадачу гарадзенскага тэлебачання. Сюжэт быў прысвечаны тэме безбілетнага праезду на гарадскім транспарце. Сярод іншых выступіў начальнік ні то аўтобуснага, ні то тралейбуснага ўпраўлення. Больш усяго ён шчыра абураўся — гэткая святая прастасць — таму, што нейкія студэнты, ці іншыя маладыя людзі, стварылі адмысловую старонку ў сацсетках і папярэджваюць пра месцы і час кантролю пасажыраў на прыпынках.

Праезд у гарадскім транспарце — рэч дастаткова дробная ў маштабах цэлай краіны. Аднак гэта ці не найлепшая ілюстрацыя, яскравая карцінка адносін дзяржавы і грамадзян.

Раней кіроўцы ў нашым горадзе часта праз гучнік абвяшчалі ў транспарце, што на лініі працуе кантроль. І гэта вельмі правільна, бо асноўная місія гэтага кантролю — прафілактыка правапарушэнняў. Галоўнае і асноўнае прызначэнне такой службы — гэта каб людзі акуратна плацілі за праезд. Таму стварэнне нейкай суполкі ў сацсетках, якая папярэджвае пасажыраў пра імаверны кантроль у канкрэтны дзень і канкрэтным месцы, таксама служыць такой задачы. Людзі прабілі квіткі за праезд — значыць усё законна, грошы пайшлі ў гарадскі бюджэт. Транспартным службам можа самім варта такія суполкі парабіць, бо штраф за безбілетны праезд — гэта законная і ў прынцыпе правільная рэч, але ўсё ж крайняя мера. У нашых жа рэаліях — галоўнае для кантрольных службаў — „накасіць” грошай у грамадзян. І пайшлі „касцы” шчыраваць, паляваць на „зайцаў”. У Гродне кантралёраў начальства выгнала на лінію нават з раніцы 1 студзеня, якраз пасля сустрэчы Новага года. Гэта ж як трэба не паважаць сваіх работнікаў, каб прымусіць іх працаваць пасля навагодняй ночы. І жыхароў горада таксама — тыя не паспелі яшчэ ачомацца пасля шампанскага і больш моцных напояў, а ім — адразу штрафы на добры пачатак года, таму што ўлада ўспрымае жыхароў найперш не як суграмадзян, а як „зайцаў”, з якіх можна здзерці апошнюю шкурку.

Тое самае і з іншымі кантрольнымі службамі. Вось пачалі былі актыўна ставіць, як і ў многіх іншых краінах, пры дарожных трасах манекены дарожных аўтаінспектараў. Гэта і ёсць важная прафілактыка і перавышэння хуткасці, і адпаведна дарожных здарэнняў. Але дзяржава бачыць кожную кантрольную службу найперш як карную місію. Таму і даводзяцца планы ўчастковым міліцыянтам па колькасці складзеных адміністрацыйных пратаколаў, дарожным аўтаінспектарам — па колькасці аштрафаваных за перавышэнне хуткасці, тое ж самае — розным падатковым службам, санітарна-эпідэміялагічным структурам, ну і, канешне, нашым любімым кантралёрам на транспарце. Цяпер, каб падвысіць важнасць і статус апошніх, ім нават прапаноўваецца дазволіць караць „зайцаў”, самым вызначаючы суму штрафу. Але кантралёрам быць, напэўна, не проста, іх не любяць, іх абзываюць, з імі сварацца і канфліктуюць пасажыры. Так што гэта людзі асаблівага складу, з пэўным характарам і загартоўкай.

Раскажу тут пры нагодзе яшчэ адну рэальную гісторыю пра доблесную міліцыю. Выпівалі двое хлопцаў на кватэры піва. Маці аднаго з іх вырашыла паклікаць участковага міліцыянта, каб той правёў з маладзёнамі прафілактычную гутарку. У прынцыпе, правільнае заходняе мысленне. Аднак гэтая жанчына наіўна не ўлічыла сённяшніх беларускіх рэалій. Замест участковага прыехаў нарад міліцыі, хлопцаў вывалаклі з кватэры і завезлі ў пастарунак. У выніку — замест прафілактычнай размовы — пратакол пра нібыта адміністрацыйнае правапарушэнне, у якім чорным па белым напісана, што гэтыя хлопцы нецвярозыя бадзяліся па вуліцы і парушалі грамадскі парадак. „Мая міліцыя мяне беражэ” — вось і выйшла людзям даражэй.

Многія людзі востра апошнім часам адчуваюць, што дзяржава іх не любіць. І адказваюць ёй, як гаворыцца, узаемнасцю. Заўважаю апошнім часам як пасажыры таго ж грамадскага транспарту ўсё часцей, нягледзячы на строгія папярэджанні, агучаныя кіроўцамі, перадаюць квіткі адзін аднаму, пакідаюць іх на сядзеннях аўтобусаў і тралейбусаў. Так што дзяржаўным структурам ёсць пра што задумацца...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Год БНР

## Дарагія мае суродзічы ў Беларусі і ў сьвеце!



Віншую Вас з Новым 2018 годам і жадаю, каб гэты вялікі наш юбілей — 100-годзьдзе абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі — быў для ўсіх нас пасьпяховым і шчасьлівым.

У 2017 годзе Канада сьвяткавала свае стопяцідзесятыя ўгодкі. І як прыемна было бачыць, што ня толькі ўлады, але і кожны горад, кожнае мястэчка, кожная вёска адзначалі гэты юбілей. Людзі ўдзельнічалі ў афіцыйных імпрэзах, але таксама стараліся з гэтай нагоды зьдзейсьніць нейкія юбілейныя праекты, адсьвяткаваць юбілей асабіста, кожны па-свойму.

Дык вось, зьвяртаюся да вас сёньня з заклікам: давайце і мы, усе мы, у Беларусі і ў замежжы, адзначым наш Юбілей — сто гадоў адноўленага існаваньня нашай дзяржавы. Пачатак быў нялёгкі, ва ўмовах вайны на нашай зямлі між чужымі нам імпэрыямі, ва ўмовах дагавораў між імі, у якіх мы ня бралі ўдзелу. Але нашыя продкі ўсё ж здолелі абвясьціць сьвету, што беларускі народ жыве і жадае быць незалежным, паўнавартасным гаспадаром свае зямлі.

Дзякуючы адвазе і вытрываласьці нашых продкаў, незалежнасьць Беларусі была абвешчаная, прызнаная суседзямі, і нават бальшавікі ня здолелі зноў зрабіць з нас расейскую губэрню. Усе мы ведаем, што без БНР не было б БССР і сёньня не існавала б незалежная дзяржава — Рэспубліка Беларусь.

Беларуская дыяспара адзначала 25 Сакавіка як найвялікшае сваё сьвята. Там, дзе былі сьвятыні, адпраўлялі малебны за Беларусь, якія заўсёды завяршаліся малітвай „Магутны Божа”. Дзеці чыталі вершы, выступалі са сьпевамі. Дарослыя зь цікавасьцю слухалі дакладаў на тэму абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Рабілі іх найбольш паважаныя дзеячы эміграцыі. Часта чула словы, менавіта калі дзень 25 Сакавіка зблізжаўся да Вялікадня: „Хрыстос уваскрос, уваскрэсьне і наша Беларусь!”. Рабілі супольныя абеды, ладзілі выставы беларускага народнага мастацтва. Усё гэта напаўняла сэрца радасьцю і верай, што „дачакаемся”.

У гэтыя сотыя ўгодкі БНР, заклікаю кожнага з Вас, мае дарагія суродзічы, адзначыць падзеі 1918 году на нашай зямлі гэтак, як адзначаюць такія сьвяты грамадзяне вольных краінаў. Або ўрачыстымі сустрэчамі, прысьвечанымі БНР, канцэртамі, гутаркамі, імпрэзамі. У замежжы, дык я абсалютна ўпэўненая, што прынамсі 25 Сакавіка адсьвяткуюць урачыста і з радасьцю. Забудземся ў гэты дзень на тое, што яшчэ не нармальна ў нашым краі, бо верым, што дачакаемся і мы тае вольнай, беларускай Беларусі, пра якую ўсе марым.

Што да асабістых праектаў, прысьвечаных стагодзьдзю БНР, прапаную, каб нашыя мастакі зарганізавалі ў 2018 годзе выставу, прысьвечаную Беларускай Народнай Рэспубліцы, каб паэты выказалі сваю любоў да Бацькаўшчыны ў сваіх юбілейных вершах, каб пісьменьнікі выдалі нарысы на тэму стагодзьдзя. І каб дзеткі ў школах папрасілі настаўнікаў расказаць ім пра падзеі ў Менску стогадовай даўніны, пра значнасьць незалежнасьці для кожнага народу, пра месца БНР у нашай гісторыі. Мяне вучылі пра ўсё гэта мае бацькі. Зьвяртаюся да нашай дыяспары — мо і вы перадалі б сваім дзеткам пачуцьцё гонару зваца беларусамі, якое перадалі нашыя бацькі майму брату і мне ў далёкім замежжы?

Дык вітаю ўсіх вас, мае дарагія суродзічы, і жадаю, каб гэты юбілейны год БНР быў для вас асабліва плённым і шчасьлівым!

Жыве Беларусь!

**Івонка СУРВІЛЛА,**
Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
Студзень 2018.



Сваімі вачыма

# Якія праўды?

Чарговы тыдзень ідзе вайна — лоб у лоб, праўда на праўду, гісторыя на гісторыю. Ніхто б не падумаў, што паміж Польшчай і Ізраілем пачнецца дыпламатычная і гістарычная вайна за памяць, у якой абодва бакі гэта... ахвяры палітыкі фашысцкай Нямеччыны. А ваююць яны на зарэз, быццам рымскія гладыятары, якім абавязкова трэба смяротная ахвяра, без аніякага памілавання. Проста, усе гэтыя падзеі з'яўляюцца для мяне неўяўляльным парадоксам гісторыі, які з-за магілы дае асалоду для той антычалавечай сістэмы, якая загубіла дзясяткі мільёнаў людзей. Знішчаны былі не толькі жыды, але і славяне — гэта чарговая супольнасць, якая ў планах вялікага Трэцяга Рэйха была прыгаворана на вынішчэнне. Пра дэмаграфічныя патраты Польшчы, Беларусі, Украіны, Расеі ці Грэцыі або Югаславіі ад нямецкага таталітарызму хопіць пачытаць нават у інтэрнэце. Але кожны з нас мае свае асабістыя сямейныя досведы. Ніколі не забуду расказаў сваёй мамы, калі ў яе роднай вёсцы Елянцы на вачах людзей немцкія карнікі пусцілі сабак, каб тыя загрызлі і разарвалі на кавалкі нявіннае дзіця. А мае дзяды з боку мамы перахавалі ў клуні і выратавалі ад смерці жыдоўскую сям'ю. От так па-чалавечы памаглі людзям. Памагаць людзям і раней, і зараз не такая простая справа. Памагаць і ратаваць людзей пад пагрозай смерці, як было ў час вайны, гэта гераізм. Таму мой дзед Майсей і баба Варвара заўсёды будуць для мяне прыкладам чалавечнасці, якая не мае цаны, і вечнасці жыцця з хрысціянскімі запаветамі. Таму не магу проста слухаць абвінавачванняў у адрас польскага народа, якія паплылі па ўсім свеце. Калі зараз так хочацца знаходзіць вінаватых, то я, гісторык па адукацыі, пастаўлю толькі адно пытанне: дзе былі тыя сытыя заходнія палітыкі ў час вайны, што не хацелі бачыць і слухаць пра канцэнтрацыйныя лагеры і генацыд жыдоўскага народа? Так, добра ведаю, што няма беззаганных людзей і народаў. Добра ведаю пра палітыку другой Рэчы Паспалітай і яе паланізацыйны падыход да ўсіх нацыянальных меншасцей. Ведаю і пра Другую сусветную вайну і пра выкарыстоўванне немцамі міжнацыянальных канфліктаў. Для беларускага пытання час не забудзе чарговых гадавін нашых падляшскіх трагедый, звязаных з Райсам «Бурым» ці камандзірам Шэндзележам «Лупашкам». Так, усё помнім, але нельга так скідаць віну на дзяржаву, якая 1 верасня 1939 года стала ахвярай атакі менавіта з боку Нямеччыны. А польская падпольная структура ў час вайны наколькі магла, ратавала жыццё жыдоўскай грамадскасці. Ясна, што тут віна ляжыць і на сённяшнім польскім палітычным баку і яго бачанні гістарычнай памяці і адукацыі. Рыхтуючы закон пра абарону польскай годнасці, не можна паставіць сябе толькі ў ролі бязвіннага і цнатлівага народа, бо такога няма. Ну і грэшнікамі гісторыкам абавязкова трэба таксама займацца, каб паказваць грамадству і перасцерагаць яго перад усімі злымі людзьмі і іхнімі поглядамі. Проста, атрымаўся такі слон у пасуднай краме, бо калі апрача жыдоўскага пытання прыходзіцца займацца яшчэ і вараженчай з украінскім бокам, то трэба быць або так моцным, або палітычным навічком. Ну і ўсё паехала і пасыпалася ўключна з заяўкамі саміх амерыканцаў у падтрымку свайго саюзніка Ізраіля.

Не зразумець усіх гэтых эмоцый, бо проста бачна, што ўсе гістарычныя праўды заўсёды прайграюць перад палітычнымі заказамі хвіліны. Канец і кропка. Свет апынуўся не ў асэнсаванай логіцы, але ў племяннай, атавістычнай прадузятасці падзелу блізкай і далейшай ваколіцы. Сябры становяцца раптам ворагамі, а інфармацыйная вайна — такая «атвраццельная», што не толькі хочацца рыгаць ад бачанага і пачутага, але і ўцячы ад гэтага кашмару. Але тут не хаханькі. Жорны кожнай дзяржавы маюць сваю сілу і то немалую. Хаця я не аніякі аналітык ці палітык, але мне аж надта відавочным становіцца, што рубам ізноў стаіць пытанне пра лідарства і гонку паміж Амерыкай, Нямеччынай і Расеяй, і то не толькі ў Еўропе, але і ў дачыненні да ўплываў кітайскай дэмаграфіі і эканомікі. Пачалі мацавацца. Абы толькі не здурнелі, каб паказаць, хто мацнейшы ў сусветнай вайне.

**Яўген ВАПА**

# Каб не зніклі простыя словы!


https://vk.com/bardvosien

Звестка пра смерць Міхала Анемпадыстава выбіла з рытму. Усё, што раней здавалася важным, сышло на далейшы план. У такі час сэнсоўны адзін крок — схадзіць на паховіны і аддаць апошні паклон сябру. Развітанне і паховіны зладзілі ў Мінску і без візы не было як туды дабрацца. Гэты бар'ер у пэўнай ступені зняло Радыё Рацыя шляхам кароткай трансляцыі з паховін. На Падляшшы шмат людзей адгукнулася на смерць мастака і аўтара культавага «Народнага альбома». Самыя змястоўныя і цёплыя ўспаміны, і не без прычыны, выказалі жыхары Бельска: Ігар Лукашук, Тамаш Суліма, Андрэй Сцепанюк. Парадніла іх творчае стварэнне «Бардаўскай восені», у якім Міхал Анемпадыстаў, хоць гэта ніколі спецыяльна не агучвалася, займаў адно з цэнтральных месцаў.

Гадамі ён афармляў мастацкі дызайн фестывалю, працаваў у журы, а дваццаць адзін год таму, разам з лепшымі выканаўцамі з Беларусі, выступіў на дошках Бельскага дома культуры з прэм'ерай «Народнага альбома». Частка той энергетыкі, якая жыва падмацавала беларусаў, па сённяшні дзень лунае ў прасторы горада. Таму 25 студзеня, у дзень пахавання, я паехала ў Бельск-Падляшскі. У дарогу паклікаў верш Надзеі Артымовіч, які дзень раней выйшаў з-пад пяра паэтэсы. Надзея Артымовіч, хаця рыхтавалася да каляднага візіту бацюшкі, згадзілася на сустрэчу. Як высветлілася на месцы, такі твор, напісаны пад уплывам смерці блізкай асобы, адзіны ў творчым вянку бельскай аўтаркі.

Мне самой хацелася паслухаць радыёперадачу з пахавання Міхала Анемпадыстава ў хаце Надзеі Артымовіч, дзе дух «Бардаўскай восені» жыве круглы год.

* * *

Іншая рэч, апошнія здымкі Міхала Анемпадыстава, на якіх раптоўна пастарэў, наводзілі на здагадкі пра хваробы і праблемы. Але ў пяцьдзясят тры гады, а гэта ведаю па сабе, пра смерць думаць недарэчна. Зразумела, што інфармацыя пра адыход з жыцця Міхала Анемпадыстава спрычынілася да нейкай метафізічнай каламуці, разбіла парадак. І хоць на двары выпаў сонечны студзеньскі будзень, у дарозе ў Бельск у галаве гучаў рэлігійны гімн: *Халодным восеньскім днём ...* і чуллівы прыпеў: *Матка Боска Вастрабрамская, злітуйся над намі...* Магчыма, дух горада з Іконай Бельскай Багародзіцы, з цёплымі цэрквамі і касцёламі, нашэптваў рэлігійны ход думак і пачуццяў. Мне яшчэ хацелася прыкмеціць фрагменты фестывальных плакатаў, якія асвятлялі восеньскі краявід Падляшша. Плакаты Міхала Анемпадыстава папаўнялі гаму восеньскіх колераў і настрояў падляшскіх мястэчак, вёсак і гарадоў. Іх можна было пабачыць у Бельску, Орлі, Маліnніках, Тэрэмісках, Нарве, Гайнаўцы, Нараўцы, Гарадку ці ў сталічным Беластоку. Прытым яны паяўляліся ў адлеглых ад цэнтра спальных кварталах, такіх як ТБС ці Выгода, і здаваліся быць «на месцы». Радасць успыхвала не толькі з-за нечаканасці. Яны змяшчалі вялікія беларускія надпісы, якія разам з высмакаваным вобразам неслі цікавы камунікат. Іх не чапалі вандалы, нярэдка яны жылі яшчэ доўга пасля мерапрыемства, або частква тырчалі з-пад іншых паведамленняў і афішаў.

У доме Надзеі Артымовіч як нідзе прысутная эмблематыка «Бардаўскай восені»: значкі, плакаты і нават адмысловыя ідэнтыфікатары, прыдуманыя для ганаровых гасцей. А Надзея Артымовіч ад пачатку ганаровы госць фестывалю. Яе творчы ўклад у развіццё мерапрыемства шматгранны, прыгадаць хоць бы аўтарска-музычны праект «Бераг», у якім яна чытала свае творы.




* * *

Якраз у час прапрэм'еры «Берага», які наладзілі ў бельскай ратушы, Надзея Артымовіч больш пранікнёна прыкмеціла і адчула асобу Міхала Анемпадыстава.

— Мы раней не размаўлялі пра паэзію, не вялі літаратурных спрэчак, — адзначае паэтэса, — не было між намі ніякай «гаварыльні», пустых слоў. Хаця мы ведалі адзін аднаго доўга, размову зводзілі да некалькіх слоў, агульных каментарыяў ці прыязных жэстаў. Часта на афіцыйных вячэрах для гасцей займалі побач сябе месцы. Міхал заўсёды быў чуткі, калі сядалі за стол, ён адстаўляў жанчыне крэсла і гаварыў «калі- ласка»! Гэтай формы некаторыя ўжо не ведаюць, не ведаюць што адным жэстам можна выказаць больш за паток прыгожых слоў.

— Міхал, калі ідзе пра асабістую культуру, быў чалавекам з вялікай літары, — прадаўжае паэтэса, — гэта быў іншы тып чалавека. Эстэт, мудры інтэлектуал і адначасова вельмі сціплы, прыгожы, чалавек. Яго маўклівая прысутнасць значыла больш за ўсе словы.

Запамяталася яго ўважнасць:

— Заўсёды глядзеў і напамінаў, каб цёпла апраналіся, бо ж восень, халады наступалі...




Успамін пра Міхала Анемпадыстава, перарканы хвілінамі маўчання, папоўніла прамая трансляцыя з Мінска па Радыё Рацыя. Развітацца прыйшлі сотні жыхароў горада. Многія з іх выказвалі шкадаванне, дзякавалі за «Народны альбом» і мастацкія праекты. Той-сёй наракаў на халодную абыякавасць дзяржавы да стваральнікаў народнай культуры. Міхал Анемпадыстаў, які трывала ўпісаўся ў жывы працэс беларусізацыі XX і XXI стагоддзяў, не мог разлічваць на падтрымку і прамоцыю з боку дзяржавы. Яго літаратурны, мастацкі, публіцыстычны талент не меў магчымасці поўнасцю разгарнуцца. Пакуль, цяжка змірыцца з адыходам мастака ў разгары творчых магчымасцей. Смутак, шкадаванне і адначасова прызнанне прагучалі ў супольным выкананні шэдэўра «Простыя словы», які ў час апошняга развітання, разам з Лявонам Вольскім, спявалі сотні тысяч галасоў... Бо, апрача сабраных на плошчы і паховінах, спявалі і адначасова плакалі слухачы радыётрансляцыі...

— У час, калі адбывалася прэм'ера «Берага», выступаў таксама Міхал Анемпадыстаў, — успамінае Надзея Артымовіч. — Тады мне ўсё моцна перашкаджала, не адпускала хваляванне і цяжка было знайсці сабе месца. Міхал сказаў слова і зачытаў тры вершы. І ў гэтым быў вялікі прыток цішыні і спакою. Так, гэта была знакамітая эстэтыка, літаратура...

Падобны настрой наклікаў апошні шпацыр па вуліцах Бельска. Над горадам расцягвалася чорнае, восеньскае неба. У адзін момант Міхал прарваў цішыню і спытаў: *Надзя, як адчуваеш сёння*




*свет і сябе ў ім?* А яна, быццам прадчувала такі паварот думак, памаўчала і дадала: *Як адчуваю свет? Як найменш слоў... шукаю цішыню...*

Мабыць, ужо тады «напісаўся» гэты верш, які матэрыялізаваўся на паперы вечарам 24 студзеня гэтага года напярэдадні пахавання Міхала Анемпадыстава.

простыя словы
            словы знікаюць

простыя рэчы
            мёртвыя

што далей
            той лепшы свет

як чорнае неба
            у Бельску

вечныя
смерць і памяць




* * *

Міхал Анемпадыстаў нарадзіўся 16 сакавіка 1964 года ў Мінску. Дызайнер, фатограф, графік, паэт, публіцыст. Сябра Беларускага саюза дызайнераў і Беларускага ПЭН-клуба. Анемпадыстава называюць адным са стваральнікаў беларускай рок-паэзіі — ягоныя вершы сталі песнямі «N.R.M.», «Новага Неба», Зміцера Вайцюшкевіча, «IQ48» ды іншых. Ён быў аўтарам славутага «Народнага альбома» (прызнанага «Альбомам года» на «Рок-каранацыі-1997»), перакладаў польскія рок-хіты для беларускіх спевакоў. «Чалавек года-2006» па версіі інтэрнэт-партала «Тузін гітоў».

Ганна КАНДРАЦЮК

## Сентымент да драўляных дамоў

У вёсцы Старое Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета шмат гадоў існуе фабрыка керамічных будматэрыялаў. Да 2000 года ў гэтым сяле і ў суседніх пабудавалі шмат мураваных дамоў. Цяпер ужо не будуюць. Вёскі становяцца бязлюднымі. Выехалі адсюль у айчынныя гарады або ў недалёкія замежныя краіны маладыя працаздольныя ранейшыя тутэйшыя жыхары. Няма каму будаваць хаты.

Паабапал асфальтавай вуліцы ў Старым Ляўкове стаяць уперамешку драўляныя і мураваныя дамы. Найбольш устойлівых драўляных налічваецца больш дваццаці. Сярод іх ёсць аднаўленыя, прыгожыя, з новай шалёўкай і памаляваныя. Іх ранейшыя ўласнікі памерлі. Жывуць іх дзеці — сын або замужняя дачка, якім ужо нікуды выязджаць з роднай хаты. Некаторыя дзеці прадалі дамы сваіх бацькоў і пераехалі жыць у горад або ў іншую мясцовасць.

Я помню прозвішчы некаторых колішніх жыхароў, драўляныя дамы якіх засталіся і ў іх жывуць наследнікі, між іншым, Садоўскіх, Урбановічаў, Марціновічаў, Харкевічаў, Сухадолаў, Рэентаў, Пташынскіх, Бандарукоў, Барэчкаў, Кучкаў, Адамюкоў і Пякарскіх. У двух дамах былі свайго часу прадуктовыя крамы, у адным працавала г. зв. злеўня малака з цэнтрыфугай (сепаратарам для перагону малака з мэтай атрымання смятаны) і ў адным клуб прэсы і кніжкі „Рух". Дзесяць хат разабралі і па іх няма следу. Зніклі з паверхні зямлі два прыгожыя драўляныя школьныя будынкі і святліца. Перад галоўным школьным будынкам была вялікая на тоўстых слупах драўляная брама з чатырохсхатным дашкам накрытым гонтам. Іх мне асабліва шкада. Новы ўласнік усё разабраў і пабудаваў на тым месцы невялікую фабрыку дарагіх спіртных напояў.

Цяпер прыгожа выглядаюць драўляныя дамы, між іншым, Яўгеніі і Юрыя Равінскіх, Ірэны і Славаміра Ігнацюкоў, Ірэны Сухадолы, Яна Сухадолы, Веры і Тадэвуша Сватоў, Лявона Харкевіча, Рыгора Пякарскага, Міраславы Балтрамюк, Яўгеніі Марціновіч і Валянціны Назарук (раней яе бацькоў Канстанціна і Надзеі Рээнт, якая пражыла 100 гадоў). У іх ёсць вялікі сентымент да драўляных хат, якія пабудавалі іх бацькі. І вось яшчэ вока так і прыцягвае драўляная плябанія з ганкам (яна цераз вуліцу ад высокай драўлянай прыгожа памаляванай царквы), у якой жывуць настаяцель стараляўкоўскага прыхода і матушка.

## Цікавыя зімнія канікулы

Зараз у вучняў Пачатковай школы ў Нараўцы Гайнаўскага павета зімнія канікулы. Школьнікі, якія жывуць у Старым Ляўкове і ў Новым Ляўкове маюць цікавыя заняткі ў стараляўкоўскай самаўрадавай святліцы. Інструктарка Крыстына Паскробка прапануе штодзень нешта іншае.

Дзяцей цікавіць, між іншым, разьба ў гліне пад кірункам інструктаркі Вольгі Максімюк, кулінарныя заняткі, розыгрышы ў шашкі. Дзеці і моладзь паедуць на купальны басейн у Гайнаўку і на канькі на лёд пад дахам г. зв. лёдовіско ў Беласток. Будзе ў святліцы бал, на які прыдуць спецыяльна пераапранутыя за кіназорак дзяўчаты, а хлопцы пераапрануцца за каўбояў.

Традыцыйна ўжо на заканчэнне канікул солтыс Старога Ляўкова Яўген Бандарук арганізуе для дзяцей кулік і касцёр. Будуць печаныя на вогнішчы кілбаскі, будуць гульні і забава.

**(яц)**

# Федарук



# у беластоцкіх шынках

Андрэй Федарук (1957 г. нар.), якога сям'я родам з Плюціч, сацыёлаг і гісторык. Нарадзіўся і вырас у Беластоку. Дэбютаваў кнігай Kuchnia podlaska w recepturach i rozhoworach opisana. Адзін з рэцэнзентаў назваў яго кухарам-публіцыстам. Апублікаваў дзясяткі кніг у такіх вядомых выдавецтвах, як Муза — у серыі «Swojskie jadło» ці Zysk i Spółka, дзе апублікаваны кнігі аб кухні памежжа, і кухнях Беларусі, Украіны і Літвы. Пастаянна публікуе ў «Палітыцы» і «Выбарчай газеце». У серыі гавэндаў «Кіпіць каша, кіпіць гарох» на Радыё Беласток прадстаўляе гісторыю ежы і прадуктаў харчавання ў свеце. Памешваючы ў гарачым катле, таксама практыкуецца ў эсэ: *Прадукты харчавання і харчовыя звычкі і сацыяльныя змены. Паміж прыгынай і спадчынай, Пачастункі курпяў. Ад паляўнічых-збіральнікаў да краіны фаст-фудаў* ці аб *ролі мясцовых СМІ ў развіцці рынку рэгіянальных вырабаў*. У 2006 г. выпусціў сваю першую празаічную спробу *Беластоцкія смакі*. У 2012 годзе ў знак прызнання выдатных дасягненняў у галіне кулінарыі, таблічка з яго імем была змешчана ў Алеі славутасцей кулінарнага мастацтва ў Астшэшаве.

Андрэй Федарук ад гадоў паслядоўна апісвае гісторыю і традыцыі свайго сямейнага гнязда — Падляшша. Кніга *W białostockich karczmach, zajazdach i restauracjach* з'яўляецца другой пазіцыяй у серыі «Падляшская кулінарыя». У першай, якая мае назву «Гісторыя падляшскіх смакаў», Андрэй Федарук прадставіў не толькі гісторыю рэгіянальных далікатэсаў, але і кухні нацыянальных і этнічных меншасцей, якія трывала ўпісаліся ў кулінарны падляшскі шматколерны дыван. Так пісаў аб ёй Роберт Макловіч: «Чытаючы Федарука, выдатна разумеем праўду, што падрыхтоўка ежы гэта не толькі пэўны набор дзеянняў, накіраваных на падрыхтоўку ежы, але перш за ўсё элемент культуры, нават яе эманацыя».

Кніга пра беластоцкія карчмы, шынкі, заезды і рэстараны гэта падарожжа ў пошуках клімату старадаўніх і больш сучасных беластоцкіх абедзенных устаноў. Праз калоны старых газет чытач наведвае першыя корчмы Браніцкіх, салоны элегантнай гасцініцы «Ritz», загляне таксама ў запушчаныя забягалаўкі на Баярах і Ханайках. А ў новай кнізе, якая будзе зачыняць серыю «Сучасная падляшская кухня» Федарук мае намер апісаць яе цяперашні стан. Яна будзе адрасавана не толькі чытачам, але ў першую чаргу рэстаўратарам і кухарам, бо ў клімаце беластоцкіх і падляшскіх рэстаранаў, бараў і ўсіх астатніх добра кормячых устаноў, што дагаджаюць апетытам падляшан і іх гасцей, будзе адбывацца акцыя кнігі. На кожнай старонцы гэтай вялікай кнігі знойдзем рэцэпты, метады падрыхтоўкі ежы, гісторыі, анекдоты і шмат інфармацый аб установах (асабліва аб шэф-кухарах), у якіх падаюцца стравы. Сучасная падляшская кухня гэта не толькі спроба апісаць стан сучаснай рэгіянальнай кухні, але — самае галоўнае — спроба распрацаваць спосабы прасоўвання нашай кухні, якія паспрыяюць яе рэкламе і выхаду наперад польскіх рэгіянальных кухняў.




— Гэта другая частка трылогіі, — кажа Андрэй Федарук. — У ёй не знойдзеце занадта шмат інфармацыі пра тое, што адбываецца сёння, але я магу абяцаць чытачам, што ўжо работа над трэцяй часткай працягваецца і кніга павінна паказацца сёлета. Будзе вядома як наведнікі частуюцца ў такіх знакавых рэстаранах як «Асторыя», «Cristal», «Сподкі», а і ў тых, што былі пабудаваны для рэспубліканскіх дажынак у 1970 годзе — «Кашталянцы» ці «Перапёлцы» — Ты да справы смаку падыходзіш нават як навуковец, — звяртаюся да аўтара-кухара. — Цытуеш Брукнера: *У гісторыі польскай культуры руская не мела б месца, бо яна — асобны тып, калі б не сплявіся лёсы абодвух плямёнаў і калі б супольныя ўплывы не адціснуліся так моцна на іх. Калі хочам прадставіць гісторыю польскай культуры, немагчыма абмінуць яе ўсходняга абсягу.* — Пішу таксама і пра звычаі, звязаныя са спажываннем і перараблянем ежы, яны былі вынікам перамяшчэння разнародных усходніх традыцый і культур. І беларуская кухня актыўна ўдзельнічала ў стварэнні міфа „крэсавай", памежнай кухні. Можа не на шляхецкіх і магнацкіх сталах, дзе перайняла старапольскія ўзоры, а наступным чынам і еўрапейскія, але яе месца трэба шукаць у багатай сялянскай кухні. Шматвяковая багатая беларуская кухня з'яўляецца тыпова вясковай. І гэтыя стравы прыцягваюць аматараў, нашых гасцей у Беластоку. Кнігі Андрэя Федарука — найбольш поўны, смачна таксама напісаны, кулінарны даклад аб мінулым і сучаснасці ў рэгіёне, так глыбока пагружаным у мінулым мультыкультурнай Рэчы Паспалітай. Не без разваг пра «следзіка» і падляшскую самагонку. Апісанне страў рэгіянальнай кухні ўключае не толькі аспект рэцэптаў і тэхналогій, але перш за ўсё сацыяльныя пытанні, бачанне чалавека ў кантэксце гісторыі, культуры, эканомікі, гаспадаркі. Пра любую нацыянальную кухню можам казаць асэнсавана толькі тады, калі глядзім на яе як на вітраж, які складаецца з мноства дробных дэталяў. Рэгіянальныя кухні — соль і сутнасць кулінарнай культуры кожнай краіны, — адзначае Роберт Макловіч у развагах пра майстэрства Андрэя Федарука. Ёсці лебяду як папкорн? А водную палку — адну з самых цікавых і найбольш прадуктыўных дзікіх раслін у нашай кліматычнай зоне? Англічане называлі яе казацкай спаржой, якой, як прыкмеціў падарожнік Кларк на пачатку XIX стагоддзя, са смакам аб'ядаюцца славяне. — Пух для падушак, сырыя маладыя галінкі непасрэдна для ежы, карэнішчы — з-за вялікай колькасці крухмалу — у якасці загушчальніка для супоў, — адзначае Федарук. — Гэта праводзіць нас праз свет карэнішчаў, цыбулін, караняплодаў — да старадаўнасці харчавання славян. Варта пайсці іх следам. Скажам, звычайнае пустазелле лебяда. У нас ёсць некалькі яе відаў, вельмі смачная смажаная на сале або масле, але таксама можа быць атрыманая ў выглядзе шпінату або ў супе. А восенню насенне лебяды можна смажыць, як папкорн. Пасля Другой сусветнай вайны лебяда знікла з меню, калі людзі выйшлі з пасляваеннай беднасці. Гэты стэрэатып выразна бачны ў нашых крамах са здаровай ежай, дзе блізкая сваячка нашай лебяды — амерыканская рысавая лебяда — каштуе добрыя грошы, а наша лічыцца пустазеллем!

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**



# Любоўная прыгода

**(фрагмент аповесці)**




**Уладзімір СІДАРУК**
Кузава, Чаромхаўская гміна

— Жыццё пачынаецца пасля шасцідзесяці, — гаварыў сусед Ціхаму. — Гуляй братка, пакуль служаць лятка!

Вінцуку не трэба было два разы паўтараць. У маладосці лічыўся зухаватым маладзёнам. І пашану ў дзевак меў. Нябогі, да яго ліплі як мухі да ліпучкі. Хлапец стройны, умеў трымацца ў кампаніі, адным словам — здольны да ўсяго: і да выпіўкі, і ў калатнечах не трымаўся ззаду. У сям'і крыху скрыгатала. Параска, шлюбная, значыцца, кампаніі не любіла, ды і Вінцуку казала збоку ад яе трымацца. А пра гулянкі і аб дзеўках — лепш не ўспамінай. Скандал мураваны! Але ў жыцці ўсяляк траплялася. Раз на возе, іншы — пад возам. Нават пасля вялікай навальніцы выглядала сонца... Так і ў сужонстве Ціхага было.

Вінцук з Праскоўяй у старасці адны дажывалі. Дочкі замужнія. Сваімі клопатамі жылі. Адно час ад часу дзядкоў на вёсцы наведвалі, каб нейкую „валуўку” прыхвацiць. Вінцуку з Параскай з гадамі сівізны прыбывала, а ў дадатак да ўсяго дрэннага бабулька прыхварэла. Сэрцайка мацней загрукала, ціск разрушыўся ды пачаў скакаць як зайчык па пустым полі. Не дагледзелі лекары...

Развіталася, бедная, з белым светам, хоць жыць так хацела. Застаўся Вінцук адзін у хаце, быццам пустэльнік на пустэчы. Пазбягаў кампаніі, нічым не цешыўся. Жаль адно сціскаў сэрца да болю, ды ставіў сабе пытанне: чаму якраз мне гэта?..

Прайшоў год, мінуў другі. Жыццё каціласа сваім ходам. Вінцук пакрысе вызваляўся з журботы і смутку. Вярталася ў яго вера і надзея на лепшыя будні. У многім абавязаны быў за гэта пенсіянерскай братве, якая прыняла яго пад свае крылы. У маладосці любіў спяваць. На вячорках быў запявалам. Асабліва захапляўся лірычнымі песнямі. З натуры быў рамантычным летуценнікам. Яго дэвізам былі строфы верша Норвіда: „Ідзі туды, дзе чуеш спеў. Там людзі сэрца маюць. Злыя людзі, павер мне — ніколі не спяваюць”. Заходзіў затым Вінцук на вячоркі, Дні сеніёра. Засядаў пры салодкім пачастунку і слухаў музыку, любоўныя песні. І так да канца сядзеў бы, калі б дамоў не трэба было збірацца. Каму ў дарогу, таму час... І вяртаўся, зачараваны марамі, нябога, у чатыры сцены пакоя. Западаў зноў у бездань цемры і смутку.

Наступіла зіма. Насталі лютыя маразы. Перад Новым годам паехаў Вінцук у Беласток наведаць дачушку і ўнукаў. Пры нагодзе з гарадскімі сябрамі спаткаўся. Вяртаючыся дамоў, прымарозіў ногі. Зразу не прыкмеціў болю. Хвароба дала знаць пра сябе пасля трох дзён. Параліч ахапіў яму левы бок. Зацвярдзелі пальцы левай ступні. Выкліканы медык з хуткай дапамогі заявіў: „рва кульшова” або артэрыяльны склероз. Запісаў абязбольваючыя ўколы, затым рознага віду прэпараты. Дамашняе лячэнне не дало выніку. Два разы праходзіў Вінцук шпіталізацыю. Не памагло. Падаў заяўку ў санаторый, у курорт. Прынялі. У жніўні сёлета адправіўся на рэабілітацыю. Дагэтуль не карыстаўся такой дабрадзейнасцю. Курортнікаў няшмат было, сем жанчын і шэсць мужчын ва ўзросце прысівелых сеніёрак ды пыхаючых энергіяй маладзіц.

Вінцуку нават у думцы не мільганула ладзіць знаёмства з жанчынай, але кажуць, што любоў патрапіць знайсці дарогу там, дзе непратаптаныя сцяжынкі. І ўтрэскалася адна прыгажуня ў прысівелага дзядулю. Нават старэча не агледзеўся, як любоўнай павуцінкай ахутала яго сэрца. А заляцанкі пачаліся ў сталовай.

— Можа, возьмеце маю порцыю кансерваваЙ кумпячыны? — акінуўшы яго мілым зрокам, запытала бландзіначка.

— Не, дзякую...

— Але ж, вазьміце. І так застанецца, — настойвала. — Я кумпячыны не спажываю.

— Затым, чым харчуецеся?

— Любоўю...

І тут жа Вінцук адчуў гарачыню ў целе. Гэта Амур стралою пранізаў яго сэрца!

Так пачалася бязмежная любоў Вінцука з Веронкай. Яму было больш за семдзесят, партнёрцы сорак сёмы наступіў. Аднак ні адно з іх не выказала яўна сваіх пачуццяў. Любоў заставалася скрытай, а Амур, вартаўнік закаханых, стаяў ля варот каралеўства Веры, Надзеі і Любові.

Веронка з сяброўкай прыехалі з другога канца краіны. Зразу заваявалі сімпатыю курортнікаў мужскога роду.

— А ведаеце, адна з нашых нічога сабе бабачка, — гаварыў Казік Вінцуку ў фізіятэрапеўтычным кабінеце. — Кажуць, што паненка... А на якой брычцы прыкацілася! Пэўна, якаясь важная персона.

Вінцук быццам не заўважыў намёку. Чакаў сустрэчы са сваёй бландзіначкай. І нядоўга прыйшлося чакаць. У чацвер курортнікам арганізавалі вогнішча з пячэннем каўбасак. Гэта было на тры дні перад заканчэннем другога заезда. Пачастунак пры кастры замест вячэры ў сталовай арганізавала адміністрацыя ў парку. Стол быў багата застаўлены ежай і напоямі. Аднак, чагосьці тут не хапала.

— Што гэта за імпрэза, калі начальства няма? — адазваўся Вінцук. — Няўжо ж мы безгаспадарныя?

— Калі штосьці не падабаецца, дык дарога адкрытая, — пачуўся з боку жаночы голас. — Можна выйсці...

Спрэчку абарвала кіраўнічка змены, якая якраз падыходзіла да кастра. Запаліла вогнішча. Тут жа з'явілася Веронка з сяброўкай. Вінцуку зразу на твары заквітнела ўсмешка, вочы быццам зоркі замігацелі. Гэта ж яе чакаў....

— Што ж, вы, кавалеры, так на суха? Не сорамна вам? — з усмешкай папракнула „шэфова”.

— У мяне ў запасе чакае, — адклікнуўся Раман і рушыў з-за стала ў напрамку гасцініцы.

— Ды і мы штосьці прынеслі, — заявіла пані Кася-сеніёрка. Вярнуўся Раман з пляшкай „Зуброўкі”. Кампанія зварухнулася. Паліваў пан Метэк. Выпівалі ўсе па чарзе, нават Вінцуковы суседкі — Веронка з сяброўкай. Ён адказаўся: „Лякарства бяру!”

— А хто іх не бярэ? — адазваўся Раман і дадаў: — Для кампаніі цыган павесіўся...

Калі Метэк паліваў у другую чаргу, дык у бутэльцы заставалася няшмат вогненнага напітку. „Банкір” так раздзяляў, каб усім па глыточку хапіла.

— Дык наліце і мне, — папрасіў Метэка Вінцук, і Веронка падала яму кубачак. Глыток араматна-зёлкавай зуброўкі разагрэў душу Вінцука, ды і сэрцайка не стальное, патрабавала раскрыцца перад незнаёмкай. Пікнік завяршаўся пры першых поцемках. Парачка вярталася ў гасцініцу разам. Каля дзвярэй развіталіся быццам добрыя знаёмыя.

— Добрай ночы, да заўтра...

Да поўначы Вінцук не заплюшчыў вока. Усе думкі займала сімпатычная бландзіначка. Дзень правёў у адзіноцтве слухаючы музыкі з камп'ютара. На адвячорку заглянула ў Вінцуковы пакой Веронка з сяброўкай. Цудоўна выглядала ў чырвонай сукенцы. Быццам багіня ўселася ў фатэль і маніла яго любоўным зрокам. Бянтэжылася крыху, бо штораз на калена нацягвала сукенку. Урэшце не стрымалася. Паднялася з фатэля і прыселася насупраць Вінцука на раскінутым на падлозе дыване. Не зважала ні на сяброўку, ні на гэта, што б сказалі людзі, угледзеўшы такую сцэнку. Хвілінку сядзелі моўчкі, не зводзячы з сябе вачэй.

— І што будзе з намі? — прашаптаў Вінцук. — Спаткаемся яшчэ?..

— Калі Гасподзь дазволіць...

Гэтыя словы Вінцук па сённяшні дзень як талісман захоўвае ў сэрцы. А сяброўцы ў пісьме напісаў такое:

— Сустрэчы і расстанні, гэта дзве часткі, з якіх калісьці складзецца шчасце.

Нікому нязведаныя наканаванні лёсу. Трэба Верыць, мець Надзею, а Любоў сама цябе знойдзе...

## Дэмаграфія Беластока

Зараз Беласток налічвае 297 тысяч жыхароў. Пяць гадоў таму было 284 тысячы. Лік нараджэнняў ёсць большы на 400 чымсьці пахаванняў. Горад на дэмаграфічным плюсе. Далейшыя прагнозы менш аптымістычныя — пасля 2022 года лік беластачан будзе змяншаўся. Раней горад быў маладшы. Было многа маладых жанчын, якім лёгка было знайсці працу. Нараджалася больш дзяцей, якім бацькі давалі перш за ўсё старапольскія імёны, між іншым, Ян, Шыман (Сіман), Бартош (Бартламей), Пётр, Антон, Адам, Францішак, а для дзяўчынак Аляксандра, Зузанна, Лена, Ганна, Зофія, Вікторыя і Юлія. Цяпер маладыя і адукаваныя жыхары Беластока выязджаюць у Варшаву або на Захад. Апрача таго жыхары вёсак — як прагназіруюць — ужо не будуць так масава як дагэтуль перасяляцца ў горад. Зараз заўважаецца адваротная тэндэнцыя.

Некаторыя жыхары ваяводскай метраполіі пасяляюцца ў падбеластоцкіх гмінах Васількаў, Супрасль, Хорашч і Заблудаў. Старэйшыя людзі, перш-наперш пенсіянеры, вяртаюцца на вёску. Некаторыя ў хаты сваіх бацькоў або купляюць пустуючыя і іх рамантуюць. Хочуць жыць бліжэй натуры, мець свой прысядзібны агародчык з агароднінай і кветкамі, свой панадворак. Тут ім спакайней, выгадней і танней жыць.

## Нарваўская дэмаграфія

У Нарваўскай гміне Гайнаўскага павета 47 вёсак і вёсачак. Найбольшыя гэта Нарва (пражываюць у ёй 1424 асобы), Трасцянка (203), Ласінка (183), Тыневічы-Вялікія (132), Крывец (127), Макаўка (116), Гарадзіска (86), Адрынкі (84), Сацы (73), Ляхі (66), Агароднікі (69), Анцуты (64), Ваські (62), Храбустоўка (52), Тыневічы-Малыя — 47 і Прыбудкі — 46. Ва ўсёй гміне пражывае 3570 чалавек. Лік жыхароў Нарваўскай гміны з кожным годам меншае і меншае.

Да найменшых вёсак належаць Навіны — 44 жыхары, Кавела — 43, Ванева і Катлоўка — яны налічваюць па 40, Рагозы — 39, Даратынка, Козлікі і Лапухоўка — па 36, Пухлы — 35, Бялкі, Існок і Кутова — па 33, Градочна і Рыбакі — па 30, Янова — 23, Падбаравіска і Сакі — у іх па 20 жыхароў, Радзькі — 18, Цімахі і Іванкі — па 16, Гарэнды і Скарышэва — па 12, Граматнае — 9, Уснаршчына — 8, Пашкоўшчына — 7, Брушкоўшчына — 6, Цісы — 3, Забалацце — 2, Гайдукоўшчына і Качалы — усяго па 1 жыхары.

Нарваўская гміна займае плошчу ў 24 тысячы гектараў. Дзяржаўныя лясы (Белавежская пушча) займаюць 35,2% адусёй тэрыторыі гміны. Шчыльнасць насельніцтва — 15 чалавек на квадратны кіламетр. У гміне на 100 мужчын прыпадае 105 жанчын. Зараз стогадовых жыхароў няма. У 2017 годзе дзевяць пар атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё”: Мікалай і Ніна Беразаўцы, Міхал і Зіна Дмітрук-Кот, Мікалай і Лідзія Мікіціны, Аляксандр і Зіна Семяновічы, Эдвард і Рэгіна Грынявіцкія, Сяргей і Люба Масайлы, Міхал і Валянціна Ясюкі, Мікалай і Надзея Ваўранюкі ды Міхал і Надзея Максімюкі. **(яц)**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Беларускія літары пяюць і смяюцца!




Рэдка калі ў рукі трапляе такая кніжка — прыгожая, мудрая, жартоўная, мілагучная... Мова пра навейшае выданне «Азбука. Вясёлы вулей». Гэта вершаваны і размаляваны расповед пра беларускія літаркі і ўсё апошняе. Шмат аўтараў падымала падобны выклік, але нікому яшчэ не ўдалося так гладка і прыгожа звязаць вершаваныя страфы пра азбуку. Аўтар, паэт Рыгор Барадулін, быў у свой час вылучаны ў кандыдаты да Нобелеўскай прэміі. Таму яго майстэрства не павінна нікога здзіўляць. Затое прыемна здзіўляе яго сардэчная ўвага для наймалодшага чытача і жаданне дапамагчы яму вывучыць беларускую мову. Вершы пра літаркі можна вывучаць для чыстай прыемнасці. Іх можна «спяваць» і паказваць на сцэне.

Сам Рыгор Барадулін так піша пра свой зборнік:

*Вулей ёсць*
*такі вясёлы,*
*пчолы*
*з гэтага вулля*
*прывядуць цябе*
*да школы.*
*Зразумее, немаўля,*
*толькі вулей загудзе,*
*што,*
*чаго,*
*адкуль*
*і дзе,*
*як знайсці каго і дзе,*
*хто ляціць, а хто ідзе.*
*Літары*
*ад А да Я*
*пчолак дружная сям’я*
*носіць мёд у соты ведаў,*
*просіць, каб усё ты ведаў.*
*Пастунова, пакрысе*
*іх запомніць трэба ўсе!*
*Гукі мовы роднай. Наскай*
*перапоўняць сэрца ласкай,*
*дык шануй святыя словы*
*беларускай звонкай мовы!*
*Радуе нябёсы й долы*
*Вулей азбукі вясёлы.*

Разам з прыемным гулам роднай мовы чытачу засмяюцца вочкі ад чароўных малюнкаў Лізаветы Лянкевіч. У іх асобны, казачны расказ, цэлы космас і мікрасвет. Там лятучыя коні размаляваныя ў яблыкі, беларускія анёлы ў блакітных аблоках, гуска ў «хустцы» намітцы, казкі заклятыя ў сонных шарах....

«Азбука. Вясёлы вулей» Рыгора Бурадуліна гэта яшчэ адна прапанова Саюза беларускіх пісьменнікаў з падсерыі «Каляровы ровар», выдадзена ў 2017 годзе. Гэтую цудоўную кніжку можна выйграць у зорчыных конкурсах. А вось, якія сюрпрызы можа наклікаць першая і самая звонкая літарка ў кніжцы Рыгора Барадуліна:

*— Агу! — А голас падае.*
*А — асаблівая павага,*
*А пачынаецца з яе:*
*айчына, азбука, адвага,*
*аловак, аксаміт, адрына,*
*арэлі, абажур, ажына,*
*анёл, ababak, аратай.*
*Ты азбуку далей гартай!*

**(Зорка)**



Гімназісткі з праваслаўнай школы ў Беластоку

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Жаба-лекарка

Павесіла на сябе жаба-рапуха ступку і слоік са шмаравідламі і стала сябе хваліць:

— Я — вучоная лекарка, у мяне лек на кожную балячку. Хто хворы, хто нядужы — давай да мяне! Кожнага аздараўлю, пастаўлю на ногі!

Сцягнуліся хворыя звяры з усяго наваколля. Навастрылі вушы, гадаюць. Ажно прыбегла лісіца. Яна пабачыла «лекарку», зарагатала і кажа:

— Ты ж сама ад галавы да пят у бародаўках і прышчах, глядзець страшна!

— Ну і што? — запенілася жаба. — Калі табе страшна, не глядзі на мяне.

Лісіца павіляла хвастом і, не хаваючы кпіны, заявіла:

— Калі ты такая слаўная, дапамажы спачатку сабе, а пасля за другіх бярыся.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

№ 06 [11-02-2018]

# Усюды было чырвона, гарэлі зямля і неба...

Калі я была маленькай дзяўчынкай, мая бабуля Зося з дому Антанюк, усё нешта мне расказвала, найбольш пра мінулае. Я многа спраў яшчэ не ведала і не разумела, пра што яна гаворыць. Яна родам з вёскі Зані, дзе побач праваслаўных людзей разам жылі каталікі. Зані, малененькая, забытая вёсачка каля Браньска. Яна там нарадзілася, там вырасла. Цяпер жыве ў парафіі Малешы, але яе ўспаміны заўсёды бягуць у Зані...

— Гэта было 2 лютага 1946 года, — пачала бабуля. — Я была маленькай дзяўчынкай. Мы сядзелі ў хаце. Каля 6 гадзіны вечара цераз акно наш бацька ўбачыў агонь і кажа: *Штосьці гарыць!*

Ён выйшаў на вуліцу і пабачыў, што гарыць вёска. Вярнуўся дамоў і не паспеў сказаць, як хтосьці з грукатам уваліўся ў нашу хату. Нейкія мужчыны загадалі паказаць нашы дакументы. Яны забралі паперы і выйшлі з нашым бацькам на двор...

Мама мяне хутка цёпла апранула і абула чаравікі. Я была наймалодшая, але ўсё памятаю. Мужчыны гэтыя хацелі забраць падвсвінка. Бацька сказаў, што ёсць у хляве.

Раптам мы пачулі выстралы. Мужчыны пабеглі туды...

Мы вельмі баяліся. У хату майго дзядулі ўсадзілі сноп саломы і падпалілі. Адзін убег да нас і крычаў: *Ратуйцеся, як хочаце!*

Мы пачалі ўцякаць. Мая старэйшая сястра Вера ўлезла ў печ, але мама яе адтуль выцягнула і мы пачалі ўцякаць. На вуліцы ўсё гарэла, усюды было чырвона: гарэла неба і ўсё навокал. Падпалілі і нашу хату. Мама трымала мяне на руках. На двары было вельмі холадна. З хаты, што насупраць, выбегла наша стрыенка. Па ёй стралялі, але яна перажыла...

Забілі майго дзеда, які выбег з хаты. Ён зваліўся, бо ў яго адпаліліся абедзве нагі.

Мы з мамай уцяклі ў лес, — працягвае свой успамін бабуля, — а бацька ўцякаў цераз агарод. Стралялі, але ён ускочыў у студзенку і там сядзеў па пояс у вадзе і так перажыў. Потым усё ўціхла. Вылез ён, пайшоў у Свірыды, дзе добрыя людзі далі адзецца ў сухую вопратку. Рана мы пайшлі ў вёску. Там было страшна... лямант і плач. Усё было спалена...

— Чаму яны гэта, бабуля, зрабілі? — пытаю з дрыжачым сэрцам. А яна, са слязамі, адказвае: *— Хто яго ведае? Можа за тое, што мы праваслаўныя...*

Пра Зані я прачытала ў фельетоне Тамаша Сулімы, які апісаў гэтыя страшныя пасляваенныя падзеі. Тады я больш зразумела, аб чым мая бабуля ўсё мне расказвала.


Бабуля Зося


Тамаш Суліма


Карціна з мастацкай выстаўкі «Залешаны» аўтарства Маргарыты Дмітрук і Лявона Тарасэвіча

Я захапляюся Тамашам Сулімам, бо ён ганарыцца тым, што ён беларус. Ён гаворыць на нашым дыялекце і апісаў гісторыю вёскі маёй бабулі. Зані, гэта вёска, якая шмат пацярпела. Людзі вярнуліся з бежанства і не паспелі яшчэ адбудаваць сваіх гаспадарак, а прыйшла наступная бяда: вайна, а пасля трагічныя падзеі 1946 года.

Я цяпер разумею як маёй бабулі было цяжка жыць. Калісьці яна была маладая. Аднак яна не забыла роднай мовы і сваёй нацыянальнасці, хаця бачыла і перажыла страшэнныя рэчы.

*Вікторыя Гаць,*
*бельская «тройка»*

## УВАГА КОНКУРС! № 06-18

## Загадкі з роднай хаткі

**Залацістыя арэхі**
**прыхавала я ў дупло:**
**Дождж ліне, нібы з прарэхі, —**
**Дык каб іх не заліло.**
**Смела сцюжу сустракаю,**
**не палохае мароз,**
**Бо запас арэхаў маю**
**І, як коўдру, — цёплы хвост.**
**В......**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 18 лютага 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 2-2018: лёд у палонцы. Узнагароды, жэлевыя аўтаручкі, выйгралі Кацярына Сурэль, Пеця Вілюк з Арэшкава, Оля Хіліманюк, Марцін Галёнка, Аліўка Жэпко з Нарвы, Наталля Гайдук, Юстына Астапковіч з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 06-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 2-2018:**

Зорка, парк, горка, луг, вяселле, ток, явар, рака, дата, сын, масла. Зуб, рыс, мята, рот, сок, лекар, гул, погляд, ра, Ева, арка, атол, камора.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Аліўка Порац**, **Оля Кардаш**, **Міхал Тапалянскі** з Нарвы, **Гжэгаж Гопш** з Вэрстока, **Аляксандра Куптэль**, **Якуб Аўярчук** з Арэшкава, **Марыюш Радзецкі**, **Аляксандра Якімюк** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Мартына Лукша**, **Аня Радзівончык** з Нараўкі, **Аня Баравік**, **Патрыцыя Даўнаровіч** з ПШ № 4 у Гайнаўцы. Віншуем!

Suszarka
Ikona
Śmiech
Pożywienie
Faks
Sport
Ich
Mat
Kolonia
Przecinek
Tygrys
Port
Szczyt
Wieloryb
Tutaj
As
Pączek
Ty
Lira
Hit
Fakt
Irtysz

**Быццё мастаком гэта дар. Гэта Божая іскра, адчувальнасць і здольнасць ствараць сусветы. Свет пастаянна змяняецца і разам з ім мы, і мастацтва. Сёння мастацтвам можа быць што заўгодна, няма ніякіх устаноўленых правілаў ці прынцыпаў. Нязменнай канстантай застаецца чалавечая няздольнасць карыстацца воляй. Усім нам патрэбны падказкі. Але пошукі, адпаведнае адчытванне падказак, якія даюць нам мастакі, не такое простае. Мастацтва бывае суворым і брутальным, шакіруе, выклікае скандалы. Часта кажа пра складаныя рэчы, парушае табу, дэмаскіруе зло, вызваляе прыгажосць і ісціну. Прымушае нас думаць, і толькі калі мы дазволім яму на гэта, даверым яму, — дае нам новую перспектыву на жыццё і саміх сябе. І якраз тады свет становіцца лепшым, больш прыгожым месцам, таму што мы змяняемся самі.**



# Чорнае







Усё, што, здавалася б, відавочнае і банальнае, дык чаму тут пра гэта нагадваць. Але колькі ж гэтых такіх банальных відавочнасцей апошнім часам стала цалкам невідавочнымі. Ці не засмучае нас, раздражняе або трывожыць тое, што зараз адбываецца ў свеце, у нашай краіне. Тое, як палітыкі імкнуцца да канфліктаў, а публіцысты, гісторыкі фальшуюць рэальнасць. Мы блукаем у хаосе вобразаў, тэорый, стымулаў. «Свет ашалеў» — чалавек чалавеку воўк, хлусня прытвараецца праўдай, а пачварнасць прыгажосцю. Ці мы не сумуем сёння больш, чым калі-небудзь раней за гэтымі гэтак трывіяльна відавочнымі каштоўнасцямі, такімі як сумленнасць, адкрытасць, дабрыня, бескарыслівасць. Здавалася б, што яны выйшлі з ужытку, што забыліся на іх нават святары. На шчасце, часам пра іх нагадваюць нам мастакі.

У панядзелак 29 студзеня, у 72 гадавіну закатавання жыхароў вёскі Залешаны атрадам Рамуальда Райса псеўданім «Буры», у познаньскай галерэі «Арсенал» адбылося адкрыццё выставы, прысвечанай гэтай трагедыі, аўтарства двух беларускіх мастакоў **Маргарыты Дмітрук** і **Лявона Тарасэвіча**. «Залешаны» гэта манументальная праца, я не баюся выкарыстаць гэты тэрмін — іх супольнае *opus magnum*. Мастацтва не выносіць сантыментаў, пафаснасці, але тое, перад чым нам усім — мастакам, наведвальнікам, беларусам, палякам — прыходзіцца тут устаяць, выходзіць далёка за межы мастацкага праекта і гаварыць пра гэта без эмоцый, здаецца, прынамсі, для мяне — цяжка. «Залешаны», як сказаў Войцех Люхоўскі (з познаньскага Цэнтра культуры «Замэк», куратар, прыватна сябра Маргарыты Дмітрук) — наша «Падляшская Герніка».

Тарасэвіч ужо даўно вывеў жывапіс за межы рамы карціны, палатно пераносячы прама на сцены і падлогі, фарбы замяняючы тынкоўкай, бетонам або святлом. Але яшчэ ніколі тое ўваходжанне «ў карціну» або літаральна хаджэнне «ў карціне» не было такім унушальным адчуваннем. Можна наважыцца сцвердзіць, што ўсе ранейшыя «эксперыменты» мастака мелі нас толькі падрыхтаваць да таго, што пабачым і адчуем у «Залешанах». Асвойваў нас, каб мы звыкліся. Найбольш прывучыў нас да феерыі колераў. Сутыкнуўшыся з вагой тэмы, «ударае па поўнай сіле», неяк наўмысна, але з незвычайнай развагай і ўмеранасцю выкарыстоўвае ўвесь капітал, наза-



# сонца







пашаны за гэтыя гады. Падлогу, якая служыць тут у ролі ўмоўнага плана вёскі, ці, дакладней, раскіданых костак яе шкілета — абрысы падмуркаў спаленых дамоў — пакрывае толькі чорная фарба. Інтуітыўны механізм хады, «наведванне» паралізуе нейкі смутны страх, быццам бы мы стаялі на парозе бездані. Узважванне кожнага кроку, каб неабачліва не ступіць на магілу, на цела. Чорны колер тут мае мноства адценняў і прымае розныя формы. Месцамі пырскі фарбы прыгадваюць пырскі засохлай крыві. Змешваюцца пачуцці, размываюцца межы, рэальнасць становіцца мастацтвам, мастацтва рэальнасцю, мінулае сучаснасцю. Тут жывапіс Тарасэвіча літаральна баліць.

Белізну сцен Гося Дмітрук, традыцыйным для сябе спосабам, выкарыстоўваючы чорныя фламастары, запоўніла сцэнамі, расшыфроўкай сэнсу якіх можна займацца гадзінамі. Гадзінамі толькі тэарэтычна, таму што трывога, якая зыходзіць ад гэтых карцін, настолькі вялікая, што практычна немагчыма ў гэтай прасторы заставацца занадта доўга. Характэрны для Дмітрук «рысунак» з дзіцячай уражлівасцю, умоўная «наіўнасць» толькі ўзмацняюць аўру «канца свету». Здавалася б, нявінныя часткі, дэталі (сцэны з вясковага жыцця) складаюцца ў жахлівую цэласць, кранаюць уяву наскрозь, эмоцыі крайнія... Тут ёсць усё, ці амаль усё. Таму што няма ніякай палітыкі, няма ані «салдат», ані «бандытаў», няма літаральнасці. Здаецца, што няма Бога. Ёсць чорнае сонца і ката-сабакі.

Аб фактах мы даведаемся між іншым з выказванняў выжыўшых і сваякоў ахвяр, з паказванага ў зале побач фільма «Bohater» Агнешкі Арнольд. Петлявая праекцыя стварае павальны ў сваім сэнсе кантэкст, выразна абгрунтоўваючы неабходнасць узнікнення выставы.

У цэлым, з візуальнага пункту гледжання, чыста эстэтычнага, праца вельмі паслядоўная. Мяжа паміж «Тарасэвічам» і «Дмітрук» амаль непрыкметная — мастакі дапаўняюць адзін аднаго, вынікаюць адзін з аднаго, ні адзін з элементаў не дамінуе над іншымі. З пункту гледжання формы і зместу «Залешаны» з'яўляюцца «прозай» самай вышэйшай пробы. З пункту гледжання эмоцый гэтыя адчуванні прыгнятальныя, жахлівыя, але ў асноўным сэнсе катарсічныя. Гэта тэрапеўтычная перапрацоўка беларускай траўмы «страху». У «Залешанах» сціраецца грань паміж мастацтвам і рэальнасцю, паміж мінулым і сучаснасцю, стваральнікам і атрымальнікам. У Залешанах чалавек забівае чалавека. У «Залешанах» няма ахвяр і катаў, усе ахвяры. Мы, сучаснікі, таксама.

Твор пасля закрыцця выставы (25 лютага) перастане існаваць — сцены будуць замаляваныя, а падлога разабраная і знішчаная. Памяць застанецца. Марцін Полак у «Затушаваных краявідах», эсэ пра месцы масавых забойстваў у Еўропе, зробленых у таямніцы, пасля якіх сціраліся сляды, піша: «Калі да гэтага магло дайсці — гэта можа паўтарыцца. Таму трэба быць асцярожным і пільным». Самая памяць не абароніць нас ад нянавісці. Памяць можна адмаўляць, скажаць. Год таму, у маршы, які ішоў па вуліцах Гайнаўкі, сярод маладых людзей, што крычалі «Bury naszym bohaterem», былі так палякі, як і беларусы. Нянавісць, агрэсія нараджаюцца ад страху, адсутнасці любові, і яна можа быць пераадоленая толькі ў адзін спосаб. Толькі праўдай і любоўю. Але любоў, прабачэнне патрабуюць значна больш мужнасці і сілы.

Тэкст і фота
**Юркі АСЕННІКА**

1 ☞ працяг

# ЗАЛЕШАНЫ

людзях. У час судовага расследавання над «Бурым», у якім мой бацька быў сведкам, гэты жаўнер сказаў, што быў сведомы паслядоўнасці невыканання загаду. За гэта пагражала яму смерць і таму мы павінны ўзвялічваць гэтага жаўнера як сапраўднага героя, — заявіў Сяргей Нічыпарук, родам з Залешан (бацька манахіні Кацярыны з Жаночага манаскага дома ў Залешанах), з сям'і якога загінула найбольш асоб.

Матэрыялы Інстытута нацыянальнай памяці сведчаць, што атрад «Бурага» 27 студзеня 1946 года быў у вёсцы Лазіцы, каля Арэшкава, куды прыехалі на фурманках сяляне з навакольных вёсак. Мелі яны перавезці драўніну ў Орлю, некаторыя гаспадары прыбылі па драўніну для сябе, а яшчэ іншыя — зарабіць падчас працы ў лесе. Жаўнеры атрада «Бурага», як іх называюць у ІНП, выбралі з мужчын тых, у якіх былі добрыя коні, вазы і загадалі ім ехаць у невядомым напрамку. Іншым асобам загадалі чакаць у Лазіцах даўжэйшы час, покі раз'едуцца дамоў. 29 студзеня атрад «Бурага» прыехаў з вазакамі ў Залешаны, а пасля абеду быў загад жыхарам вёскі прыйсці на сход у дом Дзмітрыя Сахарчука. У матэрыялах ІНП можна прачытаць, што дзверы ў доме, у якім знаходзіліся жыхары вёскі, былі запертымі, была падпалена саламяная страха. Праз выламаныя дзверы ад падворка пачалі ўцякаць з палаючай хаты мужчыны, жанчыны і дзеці. Жаўнер, які вартаваў дом з супрацьлеглага ад вуліцы боку, стаў страляць па-над іх галовамі. Таму ўсім жыхарам вёскі, якія прыйшлі на сход, удалося ўцячы з падпаленай хаты. Аднак частка жыхароў Залешан згарэла ў іншых дамах, а ў іх ліку былі дзеткі. Рамуальд Райс «Буры» пасля вайны быў прыгавораны да кары смерці і прысуд быў выкананы. Звыш дваццаць гадоў таму суд Варшаўскай вайсковай акругі ануляваў пасляваенны прысуд над «Бурым» і рэабілітаваў яго. Пазней адбылося расследаванне пасляваенных падзей Інстытутам нацыянальнай памяці і атрад Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якога камандзірам быў Рамуальд Райс «Буры», быў прызнаны вінаватым у пацыфікацыі ў 1946 годзе вёсак Залешаны, Вулька-Выганоўская, Шпакі, Зані і Канцавізна, смерці часткі жыхароў гэтых вёсак і вазакоў, якія везлі атрад.

Манахіня Кацярына (Нічыпарук), якая кіруе дзейнасцю Жаночага манаскага дома святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах, распавядала раней пра нованапісаную Залешанскую ікону Божай Маці.

— Чалавек, які хварэў, прыехаў да нас памаліцца і прасіць выздараўлення. Падчас літургіі ўбачыў Божую Маці на іконе ў акружэнні 7 анёлаў. Пасля, падчас сну, некалькі разоў пачуў ён мілы жаночы голас, які гаварыў, каб напісаць ікону Божай Маці, якую ўбачыў падчас малітваў у нашай царкве і пачуў ён словы трапара ў гонар Багародзіцы. Гэты мужчына выздаравеў і была выканана пачутая ім просьба, — адзначыла манахіня Кацярына, — бо была напісана вялікіх памераў Залешанская ікона Божай Маці, якая стаіць на іконе акружана 7 анёламі.

Ікона знаходзіцца ў драўлянай царкве манаскага дома. Знізу іконы напісаны трапар, пачуты мужчынам падчас сну. Злева ад трапара віднее на іконе палаючы дом, а справа — трое малых дзетак у агні. Паводле манахіні Кацярыны дом і дзеткі ў агні на іконе спасылаюцца на трагічныя падзеі 29 студзеня 1946 года ў Залешанах.



■ Каля крыжоў у Залешанах малітвы ўзначалілі мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі і протаіерэй Павел Нікіцюк (стаіць злева)

Сабраныя ў Залешанах атрымалі просвіры і былі запрошаны ў прыгожа адрамантаваную святліцу на пачастунак. У гэты сам дзень у гарадской галерэі «Арсенал» у Познані была адкрыта выстава «Залешаны» Лявона Тарасэвіча і Маргарыты Дмітрук аб трагічных падзеях 1946 года. Экспазіцыя нашых мастакоў, выкладчыкаў Варшаўскай акадэміі выяўленчага мастацтва, будзе адкрыта ў Познані да 25 лютага. Трагедыю ў Залешанах Маргарыта Дмітрук прадстаўляе на сценах галерэі «Арсенал», а Лявон Тарасэвіч — на падлозе гэтых жа залаў.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**




# http://gymnos.schools.by

Пра тое, што ў Беларусі не ўсё ладна з беларускамоўнай адукацыяй, „Ніва" пісала не аднойчы. Пры нібыта роўнасці беларускай і рускай моў, атрымаць адукацыю на першай вельмі складана. Да прыкладу, адзін з буйных беларускіх гарадоў Магілёў з насельніцтвам у 370 тыс. чалавек мае не больш за дзясятак беларускамоўных вучняў. Для атрымання адукацыі па-беларуску ўлады вызначылі дзве школы ў розных частках горада. Ніякага іншага спрыяння беларускамоўнай адукацыі ўлады, 15-20 гадоў таму пазачыняўшы беларускамоўныя класы, зразумела, не аказваюць. Знайсці бацькоў, якія захочуць навучаць дзяцей па-беларуску ў суцэльна рускамоўнай рэчаіснасці, зразумела, не так лёгка.

Разам з тым дзе-нідзе па Беларусі дагэтуль існуюць беларускамоўныя сярэднія навучальныя ўстановы. Не кажучы пра вясковыя школы, колькасць якіх штогод скарачаецца, у некаторых буйных гарадах можна знайсці, напрыклад, беларускамоўныя гімназіі, пра якія „Ніва" таксама пісала раней. Акрамя таго, ёсць беларускамоўная гімназія і ў невялікім мястэчку Асіповічы, што даволі нязвыкла для цяперашняй небеларускамоўнай Беларусі. З гэтай прычыны варта зазірнуць на сайт гэтай навучальнай установы.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце https://gymnos.schools.by, то перад яго вачыма адкрыецца простае, але ў той жа час „сур'ёзнае" выяўленне, уверсе якога на зялёным фоне пазначана „Дзяржаўная ўстанова адукацыі „Гімназія г. Асіповічы". Праз веды і творчасць да гармоніі і ўдасканалення". Усё, што ідзе ніжэй, цалкам скасоўвае „сур'ёзнасць" выяўлення руска-беларускай мяшанкай. Так, пад партрэтам дырэктаркі месціцца: „Директор гимназии Мамсікава Святлана Юр'еўна". І так амаль паўсюдна: „Официальное наименование: Дзяржаўная ўстанова адукацыі „Гімназія г. Асіповічы", Адрес: 213764, Магілёўская вобласць, г. Асіповічы, вул. Сташкевіча, 35". Здаецца, для навучальнай установы такі не строгі падыход да напісання недапушчальны, але што ёсць, то ёсць.

Выйсці да рубрык сайта гімназіі месціцца з правага боку выяўлення. Там тая ж сітуацыя — некаторыя з іх напісаны па-беларуску, некаторыя — па-руску. Пра тое ж, што гімназія беларускамоўная, на сайце даведваешся не адразу. Магчыма, для адміністрацыі гэта не той чыннік, які трэба афішаваць. Толькі ў рубрыцы „Гімназія сёння" (на сайце „сення" — заўв. „Нівы") пад загалоўкам „Місія гімназіі: Стварэнне ўмоў для развіцця нацыянальнай эліты Рэспублікі Беларусь" мы чытаем, што „навучанне вядзецца на беларускай мове. Вывучэнне англійскай мовы ажыццяўляецца з 3 класа, з 1 класа магчыма вывучэнне замежнай мовы факультатыўна. З 7 класа факультатыўна прапануецца вывучэнне другой замежнай мовы (французскай)".

Але, нягледзячы на недахопы сайта, добра, што асіповіцкая беларускамоўная гімназія існуе. Там яна сапраўды лічыцца элітарнай. Мясцовыя сцвярджаюць, што ў ёй працуюць добрыя настаўнікі, і многія бацькі імкнуцца аддаць туды сваіх дзяцей.

Дарэчы, у 2010 годзе была спроба зрабіць навучанне ў гімназіі таксама і рускамоўным. Беларускамоўнасць адстаялі, але ці надоўга, калі дзяржаву яна не клапоціць?

❖**Аляксандр ЯКІМЮК**

## ДАТА З КАЛЕНДАРА





### Падзеі і асобы БНР

# 10 лютага — дзень гібелі Максіма Гарэцкага

10 лютага спаўняецца 80 гадоў з дня, калі быў расстраляны Максім Гарэцкі, а на наступным тыдні — 125 гадоў з дня яго нараджэння. Класік беларускай літаратуры сталеў і развіваўся якраз у час абвяшчэння БНР, быў вядомым беларусам свайго часу.

Нарадзіўся Максім Гарэцкі 18 лютага 1893 г. у вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага павета. Першую навуку спасцігаў у школе ў вёсцы Вялікая Багацькаўка. Потым некалькі гадоў вучыўся ў сяле Вольша Аршанскага павета ў царкоўнапрыходскай школе. Ужо ў той час Гарэцкі пачынае цікавіцца беларускай літаратурай і свядома карыстацца роднай мовай. У 1908 г. скончыў вучобу і атрымаў магчымасць працаваць настаўнікам, вучыць грамаце сялянскіх дзяцей. У кастрычніку 1908 г. паехаў у Горкі, каб рыхтавацца да паступлення ў вучэльню. Там займаўся з рэпетытарам Крэерам. У 1909 г. паступіў у каморніцка-агранамічную вучэльню ў Горы-Горках, якую скончыў у 1913 годзе.

На пасадзе каморніка Віленскай губерні Гарэцкі правёў адзін год. Ён меў намер авалодаць замежнымі мовамі, атрымаць атэстат сталасці і паступіць на гісторыка-філалагічны факультэт. Але гэта не ўдалося. На той час адтэрмінаванне ад вайсковай службы каморнікам скасавалі. Каб не ісці на службу звычайным салдатам на тры гады, Гарэцкі пачынае адбыванне вайсковай павіннасці як „вольнапісаны" царскай арміі ў 1914 годзе. Якраз пачалася Першая сусветная вайна. Удзельнічаў у баях ва Усходняй Прусіі, быў цяжка паранены. Доўга лячыўся ў вайсковых шпіталях Вільні, Масквы, Магілёва.

Пасля выздараўлення працягнуў свае вандроўкі з месца на месца. Некаторы час працаваў чарцёжнікам у Маскве. У 1916 годзе вучыўся ў Паўлаўскай ваеннай вучэльні ў Петраградзе. Стаў прапаршчыкам, служыў спачатку ў Іркуцку, а потым у Гжацку. Неўзабаве апынуўся на фронце на Пінскіх балотах. Там прызначаны ў камісію па рэквізіцыі сена, але не цярпеў такой працы і адпрасіўся ў акопы. Цяжка захварэў, адасланы на лячэнне ў Жалезнаводск, потым дэмабілізаваны.

Пераехаў у Смаленск, паступіў у археалагічны інстытут, але хутка кінуў яго. Кастрычніцкія падзеі 1917 г. сустрэў на службе ў Смаленскім савеце. Працаваў камендантам жыллёвага аддзела ў Смаленску, супрацоўнічаў у мясцовых газетах. Са жніўня 1918 г. запрошаны на сталую працу ў „Звязду" Кнорыным пасля абвяшчэння БССР, супрацоўнічаў з газетай „Дзянніца". Разам з рэдакцыяй „Звязды" пераехаў у Мінск, потым у Вільню. Пры раптоўным наступе польскага войска ў канцы красавіка 1919 г. апынуўся пад акупацыяй. Працаваў у Віленскай беларускай гімназіі настаўнікам, супрацоўнічаў з газетамі „Беларускія ведамасці", „Беларускі звон", узначальваў „Нашу думку". У студзені 1922 г., перад выбарамі ў Віленскі сойм, арыштаваны польскімі ўладамі. Абвінавачаны ў прыналежнасці да партыі камуністаў, арганізацыі замаху на дзяржаўную ўладу і іншым. Зняволены ў Лукішскай турме. У выніку пратэстаў за мяжой прымусова высланы ў Беларусь. У канцы кастрычніка 1923 г. пераехаў з сям'ёй у Мінск. Працаваў выкладчыкам у БДУ, Мінскім ветэрынарным тэхнікуме, Горацкай сельгасакадэміі, Інбелкульце.

Арыштаваны ў ліпені 1930 г. па абвінавачанні ў прыналежнасці да Саюза вызвалення Беларусі. Высланы ў расейскі горад Вятка. Там працаваў чарцёжнікам, каморнікам, настаўнікам рускай мовы ў пасёлку Пясочня. Цэлы час пісаў як літаратар. Паўторна арыштаваны ў лістападзе 1937 г. Паводле прысуду „тройкі" НКВД расстраляны.

❖**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Арлянская гміна дапамагае ў куплі лекаў

**На сесіі 27 снежня 2017 года радныя Арлянскай гміны прынялі пастанову наконт прыняцця Гміннай ахоўнай праграмы па паменшанні выдаткаў жыхароў гміны на лекі. Гэта будзе ўжо чарговы, чацвёрты год дзейнічання праграмы. Хачу падкрэсліць, што калі пра гэтую палёгку размаўляю з жыхарамі іншых гмін ці горада Бельска, тыя з нейкім недаверам круцяць галовамі і здзіўляюцца. Адкуль такая дапаможная праграма? Яна нармальная, а нават больш — гэта абавязак гміны, пра які не забываюць добрыя гаспадары: войт і радныя.**

Сацыяльная дапамога з'яўляецца інструментам сацыяльнай палітыкі дзяржавы, накіраваным на дапамогу асобам і сем'ям дзеля пераадолення цяжкіх жыццёвых абставін, якіх яны самі не ў змозе адолець з дапамогай уласных рэсурсаў і магчымасцей. У лік законных гмінных уласных абавязковых задач уваходзяць, м.інш., прызначэнне і выплачванне перыядычных, мэтавых ды пастаянных успамог, а таксама стварэнне і запуск ахоўных праграм.

У Арлянскай гміне на дзень 30 лістапада 2017 года пражывалі 2882 жыхары (дзеля параўнання: у канцы 2016 года — 2918 асоб). Ва ўзросце працоўнай актыўнасці зараз 1422 асобы (у 2016-1431 асоба), з ліку якіх каля 25% непрацаздольных, г.зн. 356 інвалідаў (у 2016 г. — 358). У пенсійным узросце (жанчын за 60 гадоў і мужчын за 65) у гміне 1059 асоб і большасць з іх атрымлівае нізкія выплаты, большасць з іх атрымлівае з КРУС тысячу злотаў (у 2016 г. — 882,56 зл.) — найніжэйшую пенсію.

Аналізуючы патрэбы ў дапамозе (пачаткова), устаноўлена, што нягледзячы на нізкія пенсійныя выплаты, іх аб'ём перавышае асноўны даходны крытэрый сацыяльнай дапамогі, г.зн. 634 зл. адзінокай асобе і 514 зл. сямейніку. Аднак аказалася, што вельмі мала асоб у гміне кваліфікавалася для гэтай дапамогі. Дапамога, гэта 50% кампенсацыі за пакупку рэцэптурных лекаў ды лекаў, якія можна купіць без рэцэпта, але з прапіскай лекара. Таму ў 2016 годзе арлянская Гмінная рада ўзбуйніла даходны крытэрый на 1268 зл. адзінокім асобам і 1028 зл. сямейнікам дзеля таго, каб большая група насельніцтва пакарысталася праграмай. Прызначаная фінансавая ўспамога не можа пераўзыходзіць квоты 50% выдаткаў на законныя лекі і не можа перавышаць даходнага крытэрыю на асобу. Не аказваецца таксама фінансавай дапамогі на пакупку лекаў, калі іх вартасць меншая за 50 злотаў.

Жыхары Арлянскай гміны вельмі задаволены гэтай дапамогай. Карыстаецца гэтым і мясцовая аптэка (яе ўладальніца з Бельска некалькі гадоў таму пабудавала будынак, у тым жа будынку і кабінет сямейнага лекара), хаця ёсць крыху працы, бо кожнаму трэба надрукаваць рахунак за лекі ды адбіць ксеракопію рэцэпта.

У Арлянскай гміне, так як і ў іншых, ёсць асобы працягла або цяжка хворыя, якія не ў змозе самастойна справіцца з элементарнымі патрэбамі, асабліва з выдаткамі на прапісаныя лекарамі неабходныя лякарствы.

Выдаткі на даражэйшыя лякарствы паглынаюць шматлікім асобам значную частку іхняга хатняга бюджэту, прыводзячы да спаду жыццёвага ўзроўню, а часам нават да адрачэння ад куплі неабходных медыкаментаў. Да таго ж, некаторыя вымушаны карыстацца лекарскімі паслугамі ў прыватным рэжыме, што абцяжарвае дадатковымі коштамі. Запуск ахоўнай праграмы аказваецца рэальнай фінансавай падтрымкай, якая скарачае расходы на лякарствы. Гміна вяртае палову выдаткаў, у сярэднім каля ста злотаў. У 2017 годзе толькі ў першых трох кварталах дапамогай пакарысталася 495 асоб у 343 сем'ях, значыць удвая больш чым годам раней (у 2016 годзе 132 сям'і) і выдаткавана амаль 58 тысяч злотаў (за цэлы 2016 год 48 тысяч злотаў).

У народзе кажуць, што калі разглядаемся па вуліцы, то быццам не відаць хворых, быццам усе здаровыя. Але хопіць зайсці ў любую амбулаторыю, а там заўсёды тлумныя чэргі. Маем вельмі многа аптэк, аптэчных пунктаў і там заўсёды пакупнікі. І многа таксама тых, якім не хапае грошай на лякарствы — там, дзе няма такой праграмы, як у Арлянскай гміне.

### Новыя выгады для пацыентаў

Варта заўважыць, што ад некалькіх гадоў, і гэта дзякуючы прыватнай ініцыятыве, выгадней стала жыхарам Орлі. Зручней стала ў сямейнага лекара, паявілася аптэка з шырокім мясцовым доступам да лякарстваў (не трэба за імі падавацца ў Бельск).

Крыху гісторыі. Яшчэ да выбуху Першай сусветнай вайны мястэчка Орля мела свой шпіталь і добрых спецыялістаў у ім. Пабудавалі яго царскія ўлады. Пасля вайны шпіталь быў ліквідаваны, а будынкамі ў міжваенны перыяд карысталася мясцовая школа і сірацінец. Пасля Другой сусветнай вайны частку згаданых будынкаў (дзе быў сірацінец) заняла Гмінная ўправа, дзіцячы садок, бібліятэка, дом культуры і клуб.

Гмінная ахова здароўя для сваіх медыцынскіх патрэб і на радзільны дом заняла былы яўрэйскі будынак. У 1986 годзе ўсе шпітальныя будынкі былі знесены, дзіцячы садок закрыты, а на пустым пляцы пачалася пабудова новай школы. У новы двухпавярховы будынак перабазіравалася Гмінная ўправа.

У 1989 годзе, паралельна са школай, пачалі будаваць у Орлі новую амбулаторыю — гмінны асяродак здароўя; велічынёй меў ён раўняцца амбулаторыі ў Бельску па вуліцы Ягелонскай. Калі бульдозеры сталі расчышчаць будаўнічую пляцоўку, чатырохтысячнае грамадства Арлянскай гміны цешылася, што неўзабаве атрымае выгадную амбулаторыю і павысіцца ўзровень медыцынскіх паслуг. Годам пазней, калі фундаменты будынка былі амаль гатовыя і ўзведзена некалькі гаражоў, будова амбулаторыі спынілася. На пакінутай будове зрух пачаўся толькі пасля некалькіх гадоў, з'явіліся машыны і рабочыя ды асфальтавая вуліца. У выніку будова была даведзена да нулявога стану; і гэта ўсё. Гады праходзілі, а людзі надалей лечыліся ў старым брыдкім будынку. У міжчасе гмінныя ўлады будынак крыху падрамантавалі, падмяняючы аконную сталярку і пераводзячы абаграванне з вугальнага на алейнае. Людзі прывыклі да старога будынка, адчувалі з ім нейкую сентыментальную повязь, бо ў ім да 1960-х гадоў быў радзільны дом. Пра новую амбулаторыю людзі перасталі марыць. Каля дзесяці гадоў таму, калі настаў новы войт Пётр Сэльвесюк, пляц з «нулявым станам» быў прададзены прыватнай асобе. Гмінныя ўлады пазбыліся будаўнічай «язвы», а паколькі ахова здароўя — установа сямейнага лекара, не належала ўжо да гмінных задач, то насельніцтву асталася толькі амбулаторыя ў старым яўрэйскім будынку.

І тут здарыўся «цуд»: справай пабудовы новай амбулаторыі, запар з аптэкай, занялася бяльшчанка Анна Хроль-Паўлючук. Спярша ў 2000 годзе ў старым асяродку здароўя адкрыла аптэчны пункт. Па вуліцы Бельскай, насупраць згаданых фундаментаў няздзейсненай амбулаторыі, пачала пабудову сваёй амбулаторыі, якую завяршыла цягам аднаго года. У 2015 годзе новы будынак быў здадзены ў карыстанне.

Пацыенты ў новым будынку пачуліся быццам у новым свеце, у адпаведным для XXI стагоддзя. Ёсць адзін недахоп — у Орлі сямейны лекар (падлягае бельскаму шпіталю) прымае да 15-й гадзіны (пасля тры гадзіны дзяжурыць толькі медсястра), а павінен, як усюды, да 18-й гадзіны. З 15-й да 18-й у Орлю карэта хуткай дапамогі не прыедзе, бо ў той час павінен быць сямейны лекар. І такі ў Орлі парадокс.

Жыхары Орлі, у тым ліку і я, шмат гадоў карыстаюцца паслугамі сямейнага лекара ў Бельску-Падляшскім, а лекі купляюць у арлянскай аптэцы. Навізной у Орлі з'яўляецца і тое, што аптэка працуе некалькі гадзін (з 8-й да 12-й) у суботы. У аптэцы вельмі мілы персанал і гэта людзі хваляць.

❖**Міхал МІНЦЭВІЧ**

## 11.02 — 17.02

**(22.03. — 20.04.)** Са шматлікай групы знаёмых удасца табе вылучыць сапраўдных сяброў. Не раскідвайся грашыма. Не адчытай няправільна любоўныя сігналы. 12-16.02. адкрыюцца новыя магчымасці. На працы сітуацыі будуць патрабаваць ад цябе спакою, дыстанцыі і засяроджанасці; можаш далёка зайсці! 14-16.02. можа трэба будзе або з'ездзіць за мяжу, або прыняць замежнікаў. Ад 16.02. (да 22.02.) здабудзеш прызнанне і папулярнасць. Але ад 14.02. (да 20.02.) можаш неадэкватна рэагаваць на сітуацыі.

**(21.04. — 21.05.)** Спакой духа, хаця шмат завіраванняў; шанцы на паправу адносін з блізкімі. Прачнецца сэрца сінглаў. Але да 18.02. не дамаўляйся на рандэву, бо можаш трапіць як куляй у плот. На працы Быкоў з другой дэкады чакае павышэнне. Запішыся на нейкія курсы — будуць большыя магчымасці знайсці лепшую працу. 11-12.02. можа заснуеш сваю фірму? Адлучыся ад лішку інфармацыі хоць на дзень.

**(22.05. — 22.06.)** Жыццё набярэ тэмпаў і колераў. Спрыт і праніклівасць. Будзеш дзейнічаць са штораз большым размахам. 12-14.02. не скажы лішняга слова. Венера можа апаражніць табе кішэні. Усё, што будзеш рабіць 14-16.02., прынясе задавальненне і прыбыткі. Можа крыху кульгаць сямейнае жыццё, цяжка будзе дацягнуць рамонты. З 14.02. (да 20.02.) цяжка выбраць найлепшую задуму на ўласны бізнес; не кінь усіх сіл на неадпаведны шлях. Можаш паставіць сябе ў залежнасць, добра што ад спорту!

**(23.06. — 23.07.)** Узрасце твой творчы патэнцыял, а таксама краса і прылюднасць. Без цяжкасцей аформіш важныя справы. Нават складаныя сітуацыі абярнуцца ў тваю карысць. Шчасце ў інтарэсах і ў каханні. У пары выключна мілыя хвіліны. Не раскідвайся сваімі сіламі. 10-12.02. не праваронь карыснай нагоды. 14-16.02. дойдзе да вырашальных сямейных спраў; неабавязкова карысных для цябе. «Папацееш», каб пераканаць іншых. Рак з першай дэкады няхай падвучыцца, гэта прыдасца ў пошуках працы. Вернуцца грошы, якія страціў ты ў першай дэкадзе лютага.

**(24.07. — 23.08.)** Ты гатовы на новыя знаёмствы? Шыкуюцца кампанейскае ажыўленне і нагоды для флірту. Вялікі скок у рэйтынгу папулярнасці. Ахвота да вялікіх пачынаў. Будзеш дамагацца сваіх правоў. Калі ты страціў запал і ахвоту да працы, мусіш адпачыць. 14-16.02. можаш заваяваць новыя рынкі. З 16.02. рэалізуй уласныя праекты.

**(24.08. — 23.09.)** Спаткаеш цікавых людзей, ад якіх шмат навучышся. Не дай сябе справакаваць. 14-16.02. заваюеш свет! Але ў гэтыя дні кепскім дарадчыкам у фінансах можа быць квадратура Меркурыя з Юпітарам; не пралічыся, бо можаш астацца з нічым. Краса і харызма. Памогуць табе людзі, шукай іх. За саліднасць і працу будзеш добра ўзнагароджаны. Шукай саюзнікаў, з імі зможаш болей. Можаш цяпер добра змяніць імідж.

**(24.09. — 23.10.)** Твае дарогі выпрастаюцца, шчасце. Лёс табе спрыяе. Падтрымка зорак ва ўсіх мерапрыемствах. Не адкладвай планаў, шукай спонсараў і саюзнікаў. 16-18.02. можаш падпісаць карысную дамову. Твой розум адкрыты на новыя інспірацыі. Шанцы на любоў, а прынамсі раман. У сферы фінансаў іграй на высокія стаўкі. Найбольш шанцуе Шалям з кастрычніка.

**(24.10. — 22.11.)** Многа працы, кампанейскае жыццё заціхне. Дачакаешся перамен на лепшае. Пераможаш комплексы. Прыручыш ворагаў. Падтрымка начальства і аўтарытэтаў. Прыхільна гляне Венера, а ў сэрцы стане цёпленька. Па непаразуменнях і следу не застанецца. Тыя, хто на цябе нагаварыў, перапросяць. 11-12.02. бізнесовая прапанова. Прыбытак, хаця і немалая рызыка. Схадзі на масаж. 12-14.02. не купляй непатрэбшчыны. З 14.02. (да 20.02.) не ўводзь сілай змен.

**(23.11. — 22.12.)** Развяжаш праблемы, аформіш важныя справы. 14-16.02. маладзік Месяца выцягне цябе на цікавую сустрэчу. З 14.02. не шукай праблем там, дзе іх няма. Будзеш схільны да рызыкі і хуткіх рашэнняў. Доступ да новых інфармацый. Сустрэчы сярод старых і новых сяброў. Амбіцыйныя заданні канчай да 18.02. Як шэф загады давай пісьмова. Дбай аб цела і душу.

**(23.12. — 20.01.)** Удачы дзякуючы ўмеласці кантактавацца з людзьмі. Будзеш зарабляць грошы і добра іх выдаваць. Зоркі не дазволяць табе рэалізаваць лішне рызыкоўныя планы. Дома мілыя здарэнні. На працы доўгачаканая стабілізацыя. Спрыянне чыноўнікаў. Энергіі менш, хутка можаш прастыць. 14-18.02. добра можаш задбаць аб сваю красу. З 14.02. (да 20.02.) можа турбаваць цябе здароўе.

**(21.01. — 19.02.)** Давярай свайму шчасцю. Папулярнасць. Бяры, што табе дае шчодры лёс. Добрыя задумы. 10-12.02. найлепшы час на рэалізацыю бізнесу. Крыніца грошай не высахне! З радасцю будзеш зарабляць і выдаваць. Навучыся паказваць свае добрыя рысы. Узмоцніш сваю пазіцыю, здабудзеш прыхільнікаў. 14-16.02. знойдзеш адказы на пытанні і творчую інспірацыю.

**(20.02.—21.03.)** Форма не найлепшая. Спакойна абдумай здабыткі і паразы, складзі планы. Лепш з нічым не выхіляйся. Крыху хаосу. Венера распаліць жарсці! Удачы сярод іншага полу. 14-18.02. адновіш кантакты. Падвучыся моў, запішыся на курсы. Усе твае інвестыцыі трапныя. Можаш нават крыху зашалець. Але з 14.02. не зрабі памылкі пад уплывам эмоцый.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. антонім аналізу, 2. украінскі герб у руцэ Нептуна, 3. армянская гара ў цяперашняй Турцыі, да якой прычаліў Ной, 4. швейцарскі горад, у якім... ель, 5. звярок з першай беларускай аднарублёўкі, 6. майстар, які вырабляе ўпрыгожанні з каштоўнымі камянямі, 7. сібірскі цэнтр нафтадабычы, 8. двухмачтавае паруснае судна з... латвійскай сталіцай.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 3 нумара**

Брод, Ева, кола, Лада, маца, неба, Ціта.

Рашэнне: **Добрае кавадла не баіцца молата**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхаляку** з Чыжоў і **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.




# Амаль каля Гародні

З чыгуначнай станцыі ў Сідры напраўляюся ў цэнтр гміннай мясцовасці. Гэтыя два месцы спалучае адмысловая сцяжынка, якая падаецца мне адным з прыгажэйшых прыродна-антрапагенных закуткаў Беласточчыны ў любую пару года. Зараз, у разгар цяперашняй зімы, уцарылася там сакавіцкае надвор'е. Рэчка Сідра напоўненая роўна з берагамі і амаль роўна з тратуарам. Тратуар падыхае даўніннасцю, ягоныя пліткі больш пакладзеныя дынамікай часу, чым колішняй чалавечай рукою. З тратуара можна дакрануцца так да сырой сушы, як і да дастойна плывучай вады. Галоўнай там дзеючай асобай здаецца быць прырода, а нячастыя людзі здаюцца не перашкаджаць ёй, не назойнічаць.

Заходжу ў Гмінны цэнтр культуры, у бібліятэку. Там дзве жанчыны — бібліятэкарка ў дапенсійным узросце і наведвальніца ў пасляпенсійным узросце. Пытаю пра нейкія даведкі пра мясцовую гісторыю. Няма такіх, ёсць толькі прэсавыя выразкі датычныя Сідры. На маё зацікаўленне, ці нікога не цікавіла мінулае мястэчка, даведваюся, што некуды высылалі запыт, але не атрымалі на той запыт адказу. А ці няма ж там людзей, якіх зацікавіла б мясцовае мінулае, таксама адказ адмоўны. А ў школе ж павінны быць нейкія настаўнікі гісторыі, заўважаю. Можа што і атрымалася б, калі б былі на гэта нейкія грошы — пачую заклапочаны адказ.

Але гэта не навізна. „Беластоцкая газета” ў палове 1952 года, у разгар лета, паведамляла: „W sklepie żelaznym GS w Sidrze w dniu 10 bm. nie było ani jednej osełki, ani jednej babki (GS otrzymał jedynie 3 babki w początkach czerwca), ani jednego młotka. Stwierdziliśmy również brak pługów i części zamiennych do nich, brak bron, brak kos nr 8”. Дзесяць гадоў пазней: „W 12 wsiach gromady Sidra jest po jednym lub po dwóch członków partii. Jak oni oddziaływują swym przykładem na innych rolników? A więc trzeba tu powiedzieć wyraźnie, że ich oddziaływanie jest bardzo słabe...”. Цяперашні тамашні грамадскі актыў, здаецца, стараецца добра захаваць традыцыю. Калі б каму хацелася патлумачыць значэнне слова маразм, той павінен падацца ў Сідру менавіта.

І пра той чароўны набярэжны тратуар, пра яго паўстанне, таксама нічога пісанага няма. Старэйшая з жанчын паведамляе мне, што праклалі яго ў 1974 годзе. А раней была там жвіровая дарожка, якую часта залівала вада. Вось і яе ў той даўні час бравыя кавалеры пераносілі цераз тую ваду. І дзень раней да нашай размовы вада таксама была заліла цяперашні тратуар. Жанчына, выходзячы за мною, згадвае пра Валовічаў і Патоцкіх, і пра кальвінскі збор, паведамляючы, што ў парку перад Гміннай управай не яго арыгінальныя руіны, толькі рэканструкцыя іх. І яшчэ дадае, што ейная дачка вывучала крыху яўрэйскае мінулае Сідры, нават перапісвалася з нейкім замежным патомкам, што ўцалеў з халакоста. Але калі пытаю пра кантакт з яе ініцыятыўнай дачкою, то ранейшы размоўніцкі запал маёй субяседніцы маланкава чэзне... А ў мяне з'явілася падазрэнне, што той захапляльны тратуар быў вымашчаны не па мясцовай ініцыятыве, але па загадзе ці то з павятовай Саколкі, ці ваяводскага Беластока, ці сталічнай Варшавы, а можа нават па тагачаснаму *высокому повелению* з самой Масквы...

*Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* з канца XIX стагоддзя пра Сідру: „Niewiadomo kiedy powstała ta osada. Należała ona początkowo do ks. Radziwiłłów, od których drogą wiana przeszła wraz z hrabstwem tejże nazwy w dom Gasztoldów. W 1535 r. d. 11 listopada Wojciech Marcin Gasztold, wojew. wileński, wzniósł w S. drewniany kościół paraf., żona zaś jego Radziwiłłówna uposażyła takowy folw. Potrzebowszczyzna. Od Gasztoldów przeszła S. do Naruszewiczów, mianowicie Mikołaja, kasztel. żmujdzkiego, gorliwego wyznawcy nauki Kalwina, który też prawdopodobnie



■ Касцёл у Сідры

założył tu zbór swego wyznania, jakkolwiek Dyakiewicz i inni przypisują fundację późniejszym dziedzicom kn. Hołowczyńskim. Być może że Hołowczyńscy uposażyli tylko istniejący już zbór. Po kn. Hołowczyńskich przeszła S. do rąk Wołłowiczów, a od tych do Potockich. Na schyłku XVII w. Adam Szczuka, podkanclerzy litew., ożeniwszy się z Potocką i nabywszy dobra sidrzańskie, usiłował odjąć zbór kalwinom i obrócić go na kościół katolicki, na wstawiennictwo jednak dworu pruskiego zaniechał tej myśli i zbór przetrwał do naszych prawie czasów, rozebrany bowiem został dopiero w r. 1880 wraz z b. pałacem Potockich”.

Іншыя крыніцы падаюць, што царскія ўлады задумвалі ўзвесці на месцы збору царкву, але задума не была здзейснена. Збор трымаўся да Першай сусветнай вайны, калі быў канчаткова знішчаны. У міжваенны час сідранскі рынак быў знівеліраваны і была пасеяна на ім траўка. І след быў амаль прастыў па колішнім кальвінскім храме. Аднак у пачатку 1970-х гадоў сталі ў Сідры пракладваць водаправод, задумваючы размясціць у рынку фантан. І ў тым жа рынку дакапаліся да фундаментаў колішняга кальвінскага збудавання. Агульным рашэннем так мясцовых улад, як і захавальнікаў даўніны, на раскапаных фундаментах быў узведзены контурны мур на прыблізна паўметровую вышыню. Такім чынам навочна выявілася крыху сідранскай гісторыі.

Падаюся ў напрамку Залесся, заглядаю на сідранскія могілкі. Найцікавейшыя даўнія намагільнікі, дзе кранаючыя душу эпітафіі. Далей асфальтоўка быццам дапаўняе наштрыхаваны раней вобраз Сідры — яна палопаная амаль на кожным сантыметры. У іншых рэгіёнах Беласточчыны яе ўжо даўно адрамантавалі б, але тут ёсць як ёсць... Непадалёк дарогі аднosна малады лес — сведчанне выбівання адсюль маладога пакалення цягам апошніх дзесяцігоддзяў. Дарога пралягае па тапаграфічнай намінацыі Князёўка, што здаецца быць памяткай пра згаданых раней князёў Галаўчынскіх...

Вёска Ставарова здаецца застыла ў часе, тут толькі адзін панадворак падаецца яшчэ сведчаннем гаспадарання; дарэчы, як пазней акажацца, адзіным паміж Сідрай і Кузніцай... Са Ставарова рукою падаць у Залессе. Залессе ў свой зорны час мела стаць горадам. У 1623 годзе Геранім Валовіч узвёў тут мураваны касцёл — гэта зараз найстарэйшы касцёл у шырокім наваколлі. Выгляд касцельных вежаў засмучвае, аднак калі я зазірнуў на касцельны цвінтар, аказалася, што вядуцца там абнадзейваючыя працы па забеспячэнні фундаментаў гістарычнага храма.

Перад касцёлам пляц, які калісь меў стаць гарадскім рынкам. Там і паветка аўтобуснага прыпынку, а побач мой „металічны гуляка”, пра які было ў 45-м нумары „Нівы” ад 2007 года ды ў кнізе „Па жвіроўках, асфальтоўках”. Той бітон для малака, які зараз мае ўмяшчаць смецце, ужо значна ўстарэў, дно выела ржа, і так як кожнае прыроднае ці антрапагеннае тварэнне рассыпаецца ў ходзе прыроднага кругавароту.

Пасярэдзіне рынку шыкоўны помнічак маршалку Юзафу Пілсудскаму. У краме насупраць касцёла, са сціплай таварнай прапановай, адзін старэнькі наведвальнік прысеў на крэсле пад акном; прысеў у краме, каб не сядзець адзінока ў хаце. Прадаўшчыца адносна маладая, да якой звяртаюся на „простай” мове, адказвае мне па-польску. Не прыкідваецца, што не разумее, так як некалькі гадоў таму прыкідваўся мне адзін мужык, які яшчэ паўгадзіны раней бойка бяседаваў са сваім знаёмым на тадышнім сакольскім аўтобусным вакзале на той жа „простай” мове...

Школьны будынак у Залессі зарастае прыродай. Шмат такіх збудаванняў зараз падаецца быць адно пустою тарай, з якой даўняе змесціва разбрылося па шырокім свеце. І зараз гэтыя ранейшыя школьныя будынкі непатрэбныя, быццам цяперашнія пластмасавыя ўпакоўкі... Крыху далей могілкі; задуманы яны былі з вялікім размахам, але не ўдалося іх нават поўнасцю абгарадзіць. А кандыдатаў у пакойнікі асталося ўжо, здаецца, нямнога. І тыя неабгароджаныя могілкі каля Залесся, без канца, бясканечныя, здаюцца быць такою ўніверсальнай алегорыяй, запрашаючай увесь чалавечы род...

Недзе пасярэдзіне між Залессем і Даўгасельцамі з адзінокіх хутаранскіх забудаванняў выбягае насупраць мяне дварняга з даволі наступальнымі пагрозамі. Хапаю сцяблiну засохлага чарнобылю, сабака крышку адступае. Далей і балясіна знаходзіцца, і гаспадыня кліча свайго дварнягу, які паслухмяна вяртаецца на панадворак. Сцябліна чарнобылю, які расце на абочынах дарог, гэта не адзіная прыдарожная каштоўнасць, тут валяюцца розныя сцябліны, палачкі, балясіны, якія зручна падняць у любую хвіліну небяспекі.

І ў Даўгасельцах вітае мяне на вуліцы сабака. Побач гаспадар панадворка паведамляе мне, што гэта суседаў дварняга, за нагавіцы не павінен мяне ўхапіць, але калі б зайсці на таго сабакі панадворак, то было б туга. Насупраць вялікі валун з малым крыжам наверсе, пытаю мужчыну, як даўно той крыж там стаіць; адказвае, што каля дзесяці гадоў. На маё здзіўленне тлумачыць, што раней крыж быў загубіўся, але яго менавіта каля дзесяці гадоў таму знайшлі і паставілі на валуне.

— Тут калісь былі жыдоўскія могілкі, — інфармуе мяне. На маё здзіўленне, чаму менавіта ў Даўгасельцах, адказвае, што так калісь людзі гаварылі.

У Кузніцы дарожны паказальнік паведамляе, што там поруч з чыгуначным ёсць і аўтобусны прыпынак. Аднак у рэальнасці аўтобуснага прыпынку на чыгуначным прывакзальным пляцы няма. Заходжу ў аптэку, даведацца дзе чакаць аўтобуса. Фармацэўт ветліва інфармуе мяне, што недалёка, пяцьдзясят метраў. А калі б не было там раскладу адпраўлення аўтобусаў, то запрашае да сябе і служыць далейшай інфармацыяй. Але інфармацыя непатрэбная; на прыпынку паволі збіраюцца людзі, значыць аўтобус неўзабаве прыедзе. Добра, калі не трэба доўга чакаць...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
06